Б. БРЭЖГО.

# Замкі Віцебшчыны.

ВІЛЬНЯ — 1933

# Замкі Віцебшчыны.

Захаваныя дагэтуль у Віцебшчыне сьляды ад былых замкаў, а таксама гістарычныя весткі аб іх даюць падставу сцьвярдзіць, што на прасторы былае Віцебскае губэрніі ў сваім часе існавала *25 паасобных ваенных умацаваньняў*, якія заслугуюць на назоў замкаў. Гэта былі або ўмацаваныя замкі ў бліжэйшым значэньні гэтага слова, або ўмацаваньні ў кшталце шанцаў, меўшыя такое-ж значэньне, як і замкі. Умацаваных замкаў было ў Віцебшчыне 23,—паіменна: Вяліжскі, Віцебскі, Варонецкі, Гарадоцкі, Дрысьсенскі, Казьянскі, Касаржэўскі, Красны, Лепельскі, Невельскі, Няшчодраўскі, Аэярышчанскі, Полацкі, Себежскі, Сітнаўскі, Сакольскі, Стрыжаўскі, Суражскі, Сушаўскі, Тураўлянскі, Уллаўскі, Усьвяцкі і Чашніцкі. Апрача таго ў Віцебшчыне існавалі: Гомельскае зямляное ўмацаваньне і ўмацаваны табор Кушлікі.

Гэткая значная колькасьць замкаў у Віцебшчыне тлумачыцца тым, што Віцебшчына ляжала на тым прасторы, на якім асабліва часта крыжаваліся інтарэсы з аднаго боку Маскоўскага гаспадарства, з другога—Беларуска-Літоўскага і Польскага. Кожная старана імкнулася да замацаваньня сваей улады над Віцебшчынай, выкарыстываючы дзеля гэтага ўсе мяйсцовыя прыродныя варункі.

Разглядаючы *палажэньне замкаў*, мы бачым, што яны ўсе былі пабудаваны ці то на рэках, ці пры значнейшых вазёрах, — значыць пры адзіных у мінуўшчыне шляхох камунікацыі. У Віцебшчыне замкі былі параскіданы па цячэньню Дзьвіны, гэнае найгалаўнейшае артэрыі краю, і па яе прытоках, якія—разам з вазёрамі — тварылі цэлыя водныя сыстэмы. Пабудаваныя тут замкі давалі магчымасьць панаваньня над сваім раёнам і забясьпечывалі шляхі камунікацыі [1]). У меру таго, як у Віцебшчыне пракладаліся сухаземныя дарогі, у лічбу заданьняў замкаў уваходзіла забясьпечываньне такжа і іх [2]). Гэтак замкі Дрысса, Кушлікі, Полацак, Туроўля, Улла, Віцебск, Сураж і Вяліж, пабудаваныя ўздоўж Дзьвіны, забясьпечывалі цячэньне гэтае ракі. Апрача таго гэтыя-ж замкі, разам з іншымі, баранілі цячэньне прытокаў Дзьвіны. Замкі Дрысса, Сакол і Касаржэў абараналі цячэньне р. Дрыссы; замкі Полацак і Сітна — цячэньне р. Палоты;

---

[1]) *R. Heidenstein.* Pamiętniki wojny moskiewskiej. Tłómaczył J. Czubek. Lwów, 1894,—50, 154, 175

[2]) *К. Говорскій.* Археологическія розысканія въ окрестностяхъ Полоцка.—Вѣстникъ Юго-Западной и Западной Россіи. Кіевъ, 1863, I. — *R. Heidenstein,* o. c. 72. — *J. Piotrowski.* Dziennik wyprawy Stefana Batorego pod Psków. Wydał A. Czuczyński, Kraków 1894, VII.

замкі Казьян, Азярышча й Гарадок — цячэньне р. Аболі з прытокамі й вазёрамі, а замак Усьвят—цячэньне р. Усьвячы. Памянёныя правыя прытокі Дзьвіны, плывучы да яе з поўначы, давалі магчымасьць водным шляхам падыйсьці да маскоўскае граніцы — і наадварот. Замкі Себеж, Няшчодра і Невель панавалі над вазёрамі тых-жа назоваў — гэтак сама непадалёк ад маскоўскае граніцы. Замак Невель, апрача таго, меў уплыў і на верхняе цячэньне р. Лаваці, якая вяла ў межы Маскоўскага гаспадарства. Левыя прытокі Дзьвіны былі забясьпечаны гэтак: замак Варонеч бараніў цячэньне р. Ушачы; замкі Туроўля, Гомель, Красны й Суша — цячэньне р. Тураўкі з сыстэмаю прытокаў і вазёр; замкі Улла, Стрыжаў, Чашнікі й Лепель—р. Уллы з яе прытокамі і, урэшце, замак Сураж — цячэньне р. Касплі [1]). Апрача выпаўненьня памянёных заданьняў сваіх, на замкі, бывала, ускладаліся і спэцыяльныя задачы. Гэтак, дапрыкладу, Суражскі замак, які стаяў над судаходнымі рэкамі Дзьвіной, Касляй ды Суражкай, быў пабудаваны з тэй мэтай, каб перашкодзіць маскоўцам у наладжаньні сувязі паміж Смаленскам і Вялікімі Лукамі [2]).

Дзякуючы свайму прыроднаму палажэньню, некаторыя спаміж замкаў Віцебшчыны былі вельмі моцныя і з гэтае прычыны мелі вялізарнае *значэньне* ў жыцьці краю. Гэтак у сваім часе лічылі, што на Віцебскім замку грунтуецца сіла Рэчыпаспалітае [3]). У другой палавіне XVI ст. Полацкі замак называлі ключом Лівоніі і Беларуска-Літоўскага гаспадарства [4]). У тых-жа часох пісалі, што Полацак разам з Азярышчам пануюць над усенькім краем [5]). У першай палавіне таго-ж стагодзьдзя казалі, што Вяліжскі замак „вісеў над шыяй усяе Рускае Каралеўскае Украіны“ [6]).

Сэкрэтар караля Сьцяпана Батуры пісаў аб замках другое паловы XVI ст., што ўсе яны, як беларуска-літоўскія, так і маскоўскія, стаяць пры ўтоку меншых рэкаў у большыя. Аднак, хаця большасьць замкаў стаяла бліжэй да большае ракі, свой назоў яны атрымлівалі ад меншае ракі [7]). З замкаў Віцебшчыны гэткае палажэньне займалі 11. З рэшты замкаў 1 стаяў у закруце ракі, 3—проста над ракой, 3—пры ўтоку ракі ў возера, 5—на паўвостраве возера і 2—між двух вазёр. Стаўлючы ў гэткіх мяйсцох замкі, будаўнічыя іх не пакідалі бяз увагі існаваўшыя тамака астаткі ранейшых ваенных умацаваньняў. Гэтак напэўна можна сказаць, што пры пабудове Вяліжскага, Гомельскага, Гарадоцкага, Стрыжаўскага і Усьвяцкага замкаў былі выкарыстаны існаваўшыя там раней гарадзішчы [8]).

Зварачаючыся да пытаньня аб *часе, калі зьявіліся замкі ў Віцебшчыне*, трэба сказаць, што Полацак, як горад, успамінаецца ў ру-

---

1) *R.* *Heidenstein*, op. cit. 50-52, 154, 175-177.
2) ibid. 109-110.
3) Volumina legum, Wydanie J. Ohryzki. Petersburg, IV, 218.
4) *Н. Карамзинъ.* Исторія Государства Россійскаго. СПБ. 1842, IX, 177.
5) *R. Heidestein*, op. cit. 50
6) *M. Stryjkowski*, Kronika Polska, Litewska, Żmòdzka i wszystkiej Rusi .., Warszawa, 1846, II, 418.
7) *R. Heidenstein*, op cit., 50.
8) Полное Собраніе Русскихъ Лѣтописей, IV, 301. — *Н. Карамзинъ*, Исторія Государства Россійскаго, IX, увага 223.

скіх летапісах ужо пад 862 годам. Самае-ж слова „горад" ад найдаўнейшых часоў азначала кожнае абароннае ўмацаваньне. Выражэньне летапісаў «ставіць горад» трэба разумець, як стаўляньне сьцен навакол існуючага ўжо пасяленьня дзеля забясьпечаньня апошняга ад раптоўных нападаў. З гэтага трэба зрабіць вывад, што ў 862 годзе ў Полацку ўжо існавала абароннае ўмацаваньне. У летапісе гораду Віцебску ёсьць запіс, што княгіня Вольга ў 974 г. заснавала тутака драўляны замак [1]. Пад 1021 годам у рускіх летапісах гаворыцца ўжо аб двух гарадох: Усьвяце і Віцебску [2].

У сярэдзіне XII ст. ўспамінаецца замак Стрыжаў. У канцы XIV ст. успамінаецца Вяліж, як прыгарад Пскова, і Дрысьсенскае ўмацаваньне. У першай чвертцы XV ст. Себеж лічыцца Пскоўскім прыгарадам.

Што-ж датычыцца большасьці замкаў Віцебшчыны, дык яны будаваліся ў XVI і XVII стагодзьдзях. Будова блізу ўсіх іх зьвязана з ваеннымі падзеямі, якія разыгрываліся ў Віцебшчыне паміж Маскоўскім гаспадарствам і Вялікім Князьствам ды Рэчпаспалітаю.

У сярэдзіне XVI стагодзьдзя кароль Жыгімонт Аўгуст, прадбачучы вайну з Масквой, будуе ў Віцебшчыне Гомельскае зямляное ўмацаваньне. У 1563 г. кароль траціць Полацак. Гэта прымушае яго будаваць новыя замкі. У першыя два гады вайны па загаду караля будуюцца замкі Суражскі і Красны, а такжа робіцца спроба ўмацаваньня вусьця р. Уллы. У гэтым-жа пэрыядзе будуецца замак Азярышча. З другога боку цар Іван Грозны, рыхтуючыся да вайны, будуе замак у Невелі. А пасьля здабыцьця Полацку, у працягу першых чатырох гадоў вайны, па загаду цара будуюцца крэпасьці Тураўля і Казьян, Лепельскае ўмацаваньне ды Няшчодра; далей — крэпасьць Сітна, Чашніцкі замак ды крэпасьці Сакол і Суша. Урэшце ў 1567 г. маскоўцамі быў пабудаваны замак у Ульле.

У сярэдзіне XVII стагодзьдзя, незадоўга да ўваходу ў 1654 г. войск цара Аляксея Міхайлавіча на Беларусь, у Віцебшчыне паўсталі замкі Гарадоцкі ды Касаржэўскі. Крыху пазьней—ужо падчас вайны—маскоўцы пабудавалі ўмацаваны табор у Кушліках.

Захаваліся адрывачныя весткі аб тым, кім ды якімі сіламі адбывалася пабудова замкаў, а таксама як яны ўтрымліваліся. У XVI ст. *будаваньне замкаў* даручалася мясцовым або спэцыяльна вызначаным ваяводам. У некаторых выпадках кіравалі работамі чужаземныя інжэнеры. Гэтак ведама, што дзеля пабудовы ўмацаваньня ў Себежы з Масквы быў пасланы італьянец архітэктар Фрязін, а ўмацаваньне вусьця р. Уллы кароль Жыгімонт Аўгуст даручыў нейкаму вэнэцыянскаму інжэнеру [3]. Здаралася, што замак будаваўся так, каб аб гэтым не маглі даведацца ворагі. Гэтак была пабудавана крэпасьць Суша. Князь Юры Токмаков потайкам прыйшоў з людзьмі на востраў, прыгатаваў лесу і паставіў крэпасьць [4]. Як рабочая сіла, выкарыстываліся звычайна людзі свайго староства. Часамі, дзеля хуткасьці,

---

[1] *А. Сапуновъ*, Витебская Старина, Витебскъ, 1883, I, № 168.

[2] Полн. Собр Русск. Лѣтописей, V, 134.

[3] Полное Собраніе Русскихъ Лѣтописей, VIII, гл. 65. — *R. Heidenstein*, Pamiętniki Wojny Moskiewskiej, 50-52.

[4] *Н. Карамзинъ*. Исторія Государства Россійскаго, IX, увагі 222-223.

да працы прыцягваліся і людзі з іншых мясцовасьцяў [1]). Дзеля навабудаваных замкаў, ведама, былі патрэбныя аселыя людзі, каб абслугоўваць іх. Дык вось, стараючыся прывабіць да гэткіх замкаў жыхарства, каралі давалі сяліўшымся тамака людзям асаблівыя прывілеі. Гэтак у 1570 годзе суражскім мяшчанам былі дадзены тыя-ж правы і вольнасьці, якімі карысталіся мяшчане Віцебску [2]). Польскія каралі пільна сачылі за тым, каб у сумежных з Маскоўшчынай староствах замкі былі гатовыя да абароны. Відаць гэта з каралеўскае наказнае граматы 1577 г., пасланае дрысьсенскаму старасьце Яну Лапаце [3]). Як бачым з устаўнае граматы 1576 г., прысланае кашталяну зямлі Полацкае, старасьце лепельскаму, Юрыю Зеноўевічу, аб узнаўленьні замкаў і ахове граніц, адбываўся збор грошы з жыхарства ўсіх гарадоў, мястэчак і валасьцей, прыпісаных да каралеўскіх сталовых іменьняў [4]). Што-ж датычыцца замкаў Віцебшчыны, якія былі пад уладаю Масквы, дык у апошняй чвертцы XVI ст., як кажа Р. Гэйдэнштэйн, Масква вельмі рупілася аб усё, патрэбнае для яе замкаў [5]).

У Віцебшчыне—побач з пра́сторнымі, вымагаўшымі вялікіх коштаў, замкамі — існавалі і малыя. Найвялікшымі замкамі былі Віцебскі й Полацкі. Віцебскі замак у другой палове XVII ст. меў у вакружыне $1510^1/_2$ сажнёў. А адначасна замковыя ўмацаваньні Себежа мелі ўсяго толькі 704 сажні ў акружыне, а самы замак — 78 сажнёў. Захаваўшаеся гарадзішча Варонецкага замку мае ў вакружыне 660 сажнёў. У сваім *пляне* замкі Віцебшчыны мелі рознародныя формы. Яны залежалі ад мясцовасьці, дзе будаваўся замак. Найбольш ярка выяўляецца гэта ў вялікіх дый старэйшых замках. Меншыя замкі, будаваныя ў сярэдзіне XVI ст., мелі выгляд правільных геомэтрычных фігур. Трыкутную форму мелі замкі Варонецкі, Казьян і Красны; чатырохкутную—замкі Суша й Туроўля; форму трапэцыі—замак Сітна, а форму паўкола, абапертага на дыямэтр, меў замак Сакол.

*Моц замкаў* залежала—паміма палажэньня, велічыні і формы — яшчэ і ад матэрыялу, з якога яны былі пабудаваны, ад сыстэмы ўмацаваньняў, зброі замковае ды, урэшце, ад лічэбнасьці гарнізону.

Большасьць замкаў Віцебшчыны была збудавана з дрэва. *Будаўлянымі матэрыяламі* былі дуб, елка, сасна. Напэўна ведама, што муравaнымі замкамі ў Віцебшчыне былі Верхні Віцебскі замак і замак Туроўля. На падставе захаваўшыхся сьлядоў можна думаць, што і замкі Гарадоцкі дый Касаржэўскі таксама былі мураваныя. Як відаць, пачаткова драўляныя замкі Вяліжскі й Сакол былі пасьля перабудаваны як мураваныя. Гомельскі замак і ўмацаваны табор Кушлікі мелі толькі зямляныя валы.

*Абаронныя ўмацаваньні замкаў* дзяліліся на ўнутраныя і вонкавыя ўмацаваньні.

*Унутраныя ўмацаваньні* замкаў складаліся з баштаў і сьцен. Калі лічыць, што моц замку залежала ад колькасьці башт яго, дык пяр-

---

[1]) Акты Западной Россіи, III, № 43. — *А. Сапуновъ*, Укрѣпленіе г. Себежа въ 1656 г. „Витебскія Губернскія Вѣдомости", 1887, № 9-10.

[2]) *А. Сапуновъ*, Западная Двина, Витебскъ, 1893 г., 368-369.

[3]) Акты Западной Россіи, III, № 90.

[4]) ibid. № 68.

[5]) *R. Heidenstein*. Pamiętniki wojny moskiewskiej, 139.

шынства з гэтага гледзішча меў Віцебскі замак. У другой палове XVII ст. ён меў 31 башту. Полацкі замак у тым жа часе меў 13 баштаў. У XVI ст. замак Сакол меў 11 башт, Вяліжскі замак—9 башт, замак Суша—7, Туроўля—5, замкі Красны й Сітна—па 4 башты і замак Казьян—3 башты. Аб устройстве замковых башт у Віцебшчыне можна судзіць паводле дакумантаў з XVI і XVII стагодзьдзяў, якія да нас дайшлі. Рысункі С. Пахоловіча, сэкрэтара кароннае канцэлярыі пры каралю Сьцяпане Батуры, даюць прадстаўленьне аб баштах замкаў Віцебшчыны з канца XVI ст. [1]). Як відаць, тагачасныя башты былі чатырохкутныя, шасьцікутныя і круглыя ды мелі па тры й чатыры бoі, лічучы з прыземным. Ведама такжа, што башты Усьвяцкага замку таго-ж часу стаялі на пáлях і каменных бутах [2]).

У рахунковых кнігах гарадоў Полацку з 1654 г. і Віцебску з 1655 і 1655 г. г. [3]) ёсьць апісаньні Полацкіх і Віцебскіх замкаў. З іх бачым, што башты гэтых замкаў былі рублены з дрэва звычайна ў два бярвеньні. Толькі зрэдка сустракаліся башты, у каторых прыземны бой быў рублены ў тры бярвеньні, сярэдні—у два і верхні — у адно бервяно. Форма башт была чутырохкутная, шасьцікутная і васьмікутная. Вышыня іх, пачынаючы ад 4 сажнёў, даходзіла да 11. У залежнасьці ад сваей вышыні яны мелі два, тры і чатыры бoі. У некаторых мейсцах башты замяняліся бычкамі, прыбудоўкамі да замковае сьцяны, увышкі каля 2 сажнёў, з 2 боямі. Прамежнасьці між баштамі ў замках умацоўвалі сьцены. З памянёных ужо вышэй рахунковых кніг відаць, што сьцены былі мураваныя і драўляныя. Толькі ў Верхнім Віцебскім замку частка сьцен была каменная. Сьцены рэшты Віцебскіх і Полацкіх замкаў былі драўляныя. У Верхнім Віцебскім замку драўляная сьцяна часткова была нарублена на старой каменнай. Драўляныя сьцены былі рублены ў два рады, часамі злучаныя папярэчнымі прасьценкамі, творачы гэтак глыбокія клеткі. Прастор між абыдвума радамі запаўняўся зямлёю й каменьнем. Вышыня сьцен у Віцебскіх замках дасягала каля **2** сажнёў. Дзе-не-дзе прамежнасьці паміж баштамі былі ўмацаваны—заместа сьцен — стаячым вастрогам з бярвеньняў, ніжнімі канцамі стоцьма ўкапаных у зямлю. Гэткім вастрогам было абведзена ўсё Запалоцьце ў Полацку. Захаваліся весткі і аб тым, што ў канцы XVI ст. ў Віцебшчыне сьцены драўляных замкаў, быўшых у руках маскоўцаў, абкладаліся з вонкавага і з унутранага боку дзярном [4]).—Дзеля зносін з вонкавым сьветам у замках існавалі вароты й каліткі. Вароты пераважна бывалі ў башце.

Дзеля пабудовы замку заўсёды выбіралася мейсца, прыдатнае для абароны. Гэтак замкі бараніла самае іх палажэньне і такія пры-

[1]) *М. Коркуновъ*, Карта военныхъ дѣйствій между русскими и поляками въ 1579 году и тогдашніе планы города Полоцка и окрестныхъ крѣпостей. Журналъ Министерства Народнаго Просвѣщенія, СПБ, 1837, № XV. — Karta operacyi wojennych w wyprawie Polaków naprzeciw Rossyanom w roku 1579 i plany ówczesne miasta Połocka z przyległemi twierdzami, Wrocław, 1840. — *А. Сапуновъ*, Рисунки крѣпостей, построенныхъ повелѣнію царя Ивана Грознаго послѣ завоеванія Полоцка въ 1563 году. Полоцко-Витебская Старина, Витебскъ 1912, II. — Z okolic Dzwiny. Witebsk, 1912. Mapy i plany.

[2]) *R. Heidenstein*, Pamiętniki wojny moskiewskiej, 131.

[3]) *А. Сапуновъ*, Витебская Старина, Витебскъ, IV, ч. 2 №№ 86-88.

[4]) *R. Heidenstein*, op. cit., 117, 131.

родныя перашкоды, як рэкі, вазёры, балоты, яры. Калі-ж гэтыя перашкоды не маглі абараніць замку, як сьлед, з усіх бакоў, дык у тых мейсцах, дзе прыродныя перашкоды не баранілі замку, за сьценамі яго рабіліся штучныя перашкоды — *вонкавыя ўмацаваньні.* Найбольш звычайнымі спасярод іх у Віцебшчыне былі роў і вал. Часта роў пракапывалі гэтак, каб у яго можна было пусьціць ваду з возера або ракі. Сярод вонкавых умацаваньняў замкаў XVI і XVII стагодзьдзяў сустракаюцца сухія равы, абстаўленыя на дне па краёх тынам, а такжа равы, на краёх каторых з унутранага боку былі паўбіваны стоцьма завостраныя калы. У такіх выпадках за ровам часамі ўкапывалі ў зямлю стаячы падвойны рад калод. Апрача гэтага вонкавыя ўмацаваньні гэных часоў складаліся часта з вастрогу, частаколу й рагатак. Ведама такжа, што ў канцы XVI ст. маскоўцы акружылі Вяліжскі замак засекамі з паваленых у лясным гушчары дзярэў [1]).

Умацаваньні Гомельскага замку і ўмацаванага табору ў Кушліках складаліся наагул толькі з зямлянога валу й рову.

*Азброеньне замкаў* у Віцебшчыне складалася з гармат вялікага калібру, ведамых пад рознымі назовамі. Апрача таго да артылерыі далучалася і сталая замковая ручная стрэльба: ручніцы, затынныя пішчалі, гакаўніцы, шмакаўніцы. Судзіць аб азброеньні замкаў Віцебшчыны ў другой палавіне XVI ст. можна паводле колькасьці зброі, якая была ў замках у мамэнт здабыцьця іх войскамі караля Сьцяпана Батуры. Гэтак у Полацкіх замках было ў 1579 годзе 56 гармат і некалькі дзесяткоў гакаўніц; у тым-жа годзе ў замку Суша—21 гармата і 136 ручніц; у 1580 г. ў Невельскім замку — 12 гармат і 120 ручніц. Азброеньне Полацкіх замкаў у 1654 г. складалася з 50 гармат і 59 затынных пішчаляў. У 1665 г. Віцебскія замкі мелі 20 вялікіх гармат, 6 малых гармат, 1 мажджэр, 10 шмакаўніц, 131 затынную пішчаль. Зброя ў замках разьмяшчалася ў баштах, варотах, калітках, бычкох, у вывадах сьцен і проста на адумысна прыладжаных мейсцах ля сьцен.

На падставе тых-жа даных, якімі мы карысталіся дзеля азначэньня колькасьці зброі, можна судзіць і аб колькасьці *абаронцаў* (*гарнізону*) ў замках Віцебшчыны. Ведама, што ў 1566 г. гарнізон замку Сітна дасягаў лічбы 300 душ. У 1568 г. гарнізон Лепельскага замку складаўся з 100 пяхоты і 200 коньнікаў, а замку Улла — з 1,100 душ. У 1579 г. замак Няшчодра меў у сваім гарнізоне крыху менш за 1.000 душ, а замак Суша—да 6.000 душ. У 1664 г. гарнізон Полацкіх замкаў складаўся з 1.555 душ.

Існаваўшыя ў Віцебшчыне замкі былі пабудаваны пераважна з дрэва. З гэтае прычыны ім шмат шкоды рабілі пажары. Нішчыў іх і час: яны трухлелі і *руйнаваліся.* Некаторыя замкі Віцебшычы былі разбураны падчас войн і больш не адбудоўваліся. Палова замкаў, пабудаваных каралём Жыгімонтам Аўгустам і царом Іванам Грозным каля сярэдзіны XVI ст., была зьнішчана ў часе паходу караля Сьцяпана Батуры ў канцы таго-ж стагодзьдзя. Гэтак былі спалены або разбураны замкі Казьян, Красны, Няшчодра, Сітна, Сакол, Суша й Туроўля. Можна думаць, што ў тым-жа часе пагіблі такжа Гомельскі, Дрысьсенскі, Лепельскі й Чашніцкі замкі. Каля сярэдзіны XVII ст.,

---

[1]) *R. Heidenstein*, op. cit., 112-113.

падчас паходу цара Аляксея Міхайлавіча, быў зруйнаваны Усьвяцкі замак і спалены замак Улла. Падчас тэй-жа вайны быў зьнішчаны Касаржэўскі замак і перастаў існаваць умацаваны табор Кушлікі.

Вяліжскі замак згарэў у 1697 годзе. Няма ведама, калі зруйнаваліся існаваўшыя яшчэ ў другой палавіне XVII ст. замкі Варонецкі, Невельскі, Азярышчанскі, Себежскі і Суражскі. Зусім невядома, калі перасталі існаваць замкі Гарадоцкі і Стрыжаўскі. Ведама, што ў 1757 годзе згарэлі астаткі ад былых Віцебскіх замкаў. Руіны Полацкіх замкаў можна было бачыць яшчэ ў пачатку XIX ст. Цяпер ад усіх замкаў Віцебшчыны толькі дзе-не-дзе відаць сьляды іх валаў ды равоў, ды памяць аб іх перахоўваецца ў народных легендах.

Кожын із замкаў, якія існавалі на прасторы Віцебшчыны, меў свае асаблівасьці і сваю гісторыю. Ніжэй падаюцца гэтыя ведамасьці аб кожным замку асобна. Апісаньне іх даецца ў хронолёгічным парадку—на падставе існуючых вестак аб пабудове таго ці іншага замку. Парадак гэты—наступны:

I. Віцебскія замкі.
II. Полацкія „
III. Усьвят
IV. Стрыжаў
V. Вяліж
VI. Дрысса
VII. Себеж
VIII. Воронеч
IX. Гомель
X. Невель
XI. Сураж
XII. Туроўля
XIII. Казьян
XIV. Лепель
XV. Няшчодра
XVI. Сітна
XVII. Улла
XVIII. Чашнікі
XIX. Азярышча
XX. Красны
XXI. Суша
XXII. Сакол
XXII. Гарадок
XXIV. Касаржэў
XXV. Умацаваны табор Кушлікі.

## I. Віцебскія замкі.

У найстарэйшай часьці гораду *Віцебску*, на левым беразе ракі Дзьвіны і ўпадаючае ў яе Віцьбы, захаваліся астаткі гэтак-званае Замковае гары, якая сьведчыць аб існаваньні тут некалі *замку*. У летапісе гораду Віцебску апавядаецца, што ў 974 годзе княгіня Вольга, пасьля перамогі сваей над яцьвагамі й печанегамі, пераправілася праз Дзьвіну і на гарэ заснавала драўляны замак, які назвала — ад ракі Віцьбы—Віцебскам [1]).

Першая болей-меней верыгодная вестка аб Віцебскіх замках прыпадае на пачатак XIV ст. Паводле слоў М. Стрыйкоўскага, князь Альгерд падчас свайго князяваньня ў Віцебску ўмацаваў *Верхні* замак мураванаю сьцяною і баштамі дый прыаздобіў яго палатамі [2]). Альгердавы замак крэпка пацярпеў пры аблозе Віцебску ў 1393 г. князем Вітаўтам, каторы, здабыўшы драўляны *Ніжні* замак, паставіў у Благавешчанскай царкве гарматы і бясспынна, дзень і ноч, граміў

[1]) *А. Сапуновъ*, Витебская Старина, I, № 168.
[2]) *M. Stryjkowski*, Kronika Polska, II, 14.

стуль каменныя сьцены Верхняга замку. Гарматнімі стрэламі зроблены былі прабоіны ў сьценах і баштах Верхняга замку. Падгатаўляўся агульны штурм, але жыхары, напалоханыя магутным войскам Вітаўта і пагрозай казьні за апор, здалі горад [1]). Цераз тры гады, у 1396 годзе, Вітаўт, пасьля 30-дзённае аблогі, здабыў Ніжні замак і гэтым прымусіў войска і жыхарства перабрацца ў Верхні замак. З гэтае прычыны ў апошнім сабралося гэткае множства людзей, што жаўнеры хацелі выгнаць з замку грамадзян. Узьнялася калатня, і замковыя вароты расчыніліся [2]). У 1435 г. пад Віцебск падыйшоў князь Міхал Жыгімонтавіч, але, ня гледзячы на 6-тыднёвую аблогу, здабыць яго ня здолеў. Аднак, у 1437 г.—пасьля ўпорлівае абароны—Віцебск яму паддаўся [3]). Вялікі князь літоўскі Аляксандар у канцы XV ст. загадаў давясьці Віцебскі замак да абароннага стану [4]). У 1516 г. на Віцебск напалі расейцы. Горад быў спалены да-тла. Самы замак быў у вялікай небясьпецы, бо нехапала гарматаў дый еміны. Аднак расейцы, пасьля даўгое аблогі, адступіліся. У 1519 г. маскоўскія ваяводы Васіль Годунов, князь Елецкій і Засекін, падыйшоўшы да Віцебску з сільнай татарскай коньніцай, спалілі прадмесьці і здабылі вонкавыя ўмацаваньні [5]). 27 верасьня 1568 г. ваяводы Шереметев, Бутурлін і Сабуров, з сільнымі арміямі, пры якіх было 6.000 татараў, аблажылі Віцебск. Жыхары, пачуўшы аб жорсткасьці татараў, схаваліся ў замку. У горадзе ўзьняўся пажар. Тады ваявода Пац зрабіў выпад із замку і, адагнаўшы нападаўшых, затушыў агонь. Цераз тры дні расейцы адступіліся ад Віцебску [6]).

Віцебскія замкі, пацярпеўшыя і ад часу, і ад частых нападаў, былі адбудаваны ў другой палавіне XVI ст.—23 лістапада 1576 г. кароль Сьцяпан Батура выказаў сваю падзяку жыхарству Віцебску за тое, што яно забудавала замку часьць немалую, на самых шанцах і прыступе непрыяцельскім і ад ракі Дзьвіны, паміж вежамі новазбудаванымі Усьпенскаю і Прачысьценскаю [7]). Апісаньне Віцебскіх замкаў пакінуў у другой палове XVI ст. ротмістр Віцебскага замку Гваньіні. „У Віцебску—піша Гваньіні—ёсьць два вельмі прасторныя і, дзякуючы свайму палажэньню, вельмі ўмацаваныя замкі; адзін з іх, які ляжыць на раўніне і прасторам роўны гораду, называецца Ніжнім замкам; другі, Верхні замак, стаіць на даволі абшырным узвышшы. Абодва гэтыя замкі ўмацаваны баштамі і сьценамі, пабудаванымі з дубу і напоўненымі зямлёю ды каменьнем. Народу і ўсялякае стрэльбы ў горадзе многа“ [8]). У 1614 годзе абодва гэтыя замкі згарэлі [9]).

Спадзяючыся нападу на Віцебск войск цара Аляксея Міхайлавіча, жыхары, колькі пасьпелі, умацавалі вастрогам ды агарожаю

---

[1]) *M. Stryjkowski*, Kronika Polska, 109.
[2]) *T. Narbutt*, Dzieje Starożytne narodu Litewskiego, Wilno, V, 563-564.
[3]) Ibid. VII, 169, 178.
[4]) *Н. Карамзинъ*, Исторія Государства Россійскаго, VI. 197.
[5]) Ibid. VII, 63.
[6]) *M. Stryjkowski*, Kronika Polska, II, 418.
[7]) Акты, относящіеся къ исторіи Западной Россіи, III, № 73.
[8]) Z kroniki Sarmacyi Europskiej Alexandra Gwagnina z Werony. Wydanie K. Turowskiego. Kraków, 1860.
[9]) *А. Сапуновъ*, Витебская Старина, I, 458. — Там-жа ў аннэксах прыблізны плян Віцебскага замку ў канцы XVI ст.



*Плян г. Віцебску 1664 г.*

акопы Ніжняга і Верхняга замкаў, ля якіх ня было ні каменных, ні драўляных сьцен[1]). 22 лістапада 1654 г. баярын Шереметев заўладаў Віцебскам пасьля 14-тыднёвае аблогі. Замкі былі блізу зусім зруйнаваныя. Расейцы стараліся памагчымасьці іх паправіць. У 1660 г. цар загадаў у Ніжнім і Новым горадзе пабудаваць «худые мѣста», сьцяну і башту, а к трэцяму Вышняму каменнаму гораду прыгатаўляць лес [2]).

У былым маскоўскім архіве міністэрства замежных спраў перахоўвуецца плян Віцебску з 1664 г., які быў прысланы ў Маскву віцебскім ваяводаю князем Якавам Волконскім [3]). Там-жа ёсьць рахунковыя кнігі гор. Віцебску з 1655 і 1665 г. г. [4]). Гэтыя дакуманты даюць магчымасьць судзіць аб тым, у якім стане былі Віцебскія замкі ў сярэдзіне XVII ст.

Як відаць з пляну Віцебску 1664 г., Верхні й Ніжні замкі стаялі між Дзьвіной і ўпадаючымі ў яе ракой Віцьбай ды ручаём. Узгорскі замак з аднаго боку абмывала рака Дзьвіна і з двух бакоў рака Віцьба. Рахунковыя кнігі даюць гэткія інфармацыі аб Віцебскіх замках.

Верхні замак або *Вышні* горад меў у акружыне 392 сажні; у ім было 6 башт і каменныя палаты, а паміж імі—341 саж. сьцен. Башты былі драўляныя, рубленыя ў 4 або ў 8 сьцен. Яны былі рублены ў два бярвеньні. У аднэй башце прыземны бой быў у тры бярвеньні, сярэдні—у два і верхні—у адно бервяно. Адна башта была зрублена на старой мураванай падставе. Найвышэйшая башта мела ўвышкі 7 сажнёў, найніжэйшая—4 сажні. Башты мелі, у залежнасьці ад вышыні, па два, тры або чатыры бої. Сьцены паміж баштамі былі або мураваныя, або драўляныя цалком, або на старой каменнай сьцяне была нарублена драўляная. Вышыня іх дасягала ад 2 да 4 сажнёў.

Ніжні замак, які прытыкаўся к Верхняму, меў 13 башт і 542½ сажні драўляных сьцен, што разам складала ў працяжнасьці 589½ сажнёў. Башты і сьцены былі новазбудаваныя. Башты былі драўляныя, рубленыя ў 4 або 8 сьцен; увышкі мелі яны ад 4 да 6 саж. Лічба бояў была ад 2 да 3. Прамежнасьці паміж баштамі былі рублены ў дзьве сьцяны або былі падмацаваны стаячым вастрогам. Вышыня іх мела каля 2 саж. Звонку Ніжні замак быў падмацаваны стаячым вастрогам, частаколам ды рагаткамі.

*Узгорскі* замак або *Вастрог* меў 10 башт і 2 бычкі; іх працяжнасьць разам з сьценамі дасягала 529¼ саж. Замак быў драўляны. Башты былі рубленыя ў 4 і ў 8 сьцен. Вышыня іх вагалася ад 4 да 3 саж.; кожная бышта мела тры бої. Бычкі былі дабудоўкамі да сьцен замку. Яны мелі па 2 бої, а вышыня іх мела каля 2 саж. Прамежнасьці паміж баштамі і бычкамі займала сьцяна, рубленая ў два рады; вышыня яе мела каля 2 саж.

Бок замку, якога не абаранялі рэкі Дзьвіна і Віцьба, быў звонку ўмацаваны—ад Дзьвіны да Віцьбы—выкапаным тут ровам, даўгім

---

[1]) *А. Сапуновъ*, Вит. Стар. I, 635.

[2]) Дополненія къ актамъ историческимъ, IV, № 75.

[3]) *А. Сапуновъ*, Чертежъ города Витебска 1664 года, — Труды Витебской Ученой Архивной Комиссіи, Витебскъ 1910, I.—*А. Сапуновъ*, Витебская Старина, IV, планъ Витебскихъ замковъ въ половинѣ XVII вѣка.

[4]) *А. Сапуновъ*, Витебская Старина, IV, ч. 2, №№ 87-88.

на 169 саж. і шырокім на 4 саж.; наабапал рову быў тын. Перад сьценамі іншых частак замку былі пастаўлены звонку: тын, частакол ды рагаткі.

Усе тры Віцебскія замкі мелі ў акружыне 1.510½ саж.

Як каменныя, так і драўляныя сьцены Віцебскіх замкаў у сярэдзіне XVII ст. былі ў шмат якіх мейсцах паразваліваны. Умацаваньні навакол замкаў шмат дзе былі разбураныя і вымагалі направы.

Азброеньне Віцебскіх замкаў у 1665 годзе складалася з 20 гармат валікага калібру, 6 гармат меншага калібру, 1 мажджэра, 10 шмакаўніц і 131 затыннае пішчалі.

Ніжні і Узгорскі замкі былі, як вынікае з вышэйсказанага, драўляныя. Што-ж датычыцца Верхняга замку, дык добрая палавіна ягоных сьцен была з дрэва. Калі яго ў тыя часы і называлі каменным, дык толькі па старой памяці. Верхні замак ад часоў Альгерда да пачатку XV стагодзьдзя быў запраўды мураваны, але пазьней—у выніку частых аблог і пажараў—пачаў патроху руйнавацца, папраўлялі-ж яго ўжо дзеравам [1]).

На падставе Андрусоўскае ўмовы 1667 г. Віцебск ізноў адыйшоў пад Польшчу. Пры перадачы ў інвэнтары Віцебску таго-ж году сказана, што ў Віцебску ёсьць тры замкі, а ў іх дваццаць бастыёнаў вялікшых і тры меншыя [2]). Тое-ж гаворыцца і ў інвэнтары Віцебскае эканоміі 1698 г. [3]).

Пётра Вялікі, каб непакідаць у сябе ззаду ўмацаванага места, варожага да яго і да караля Аўгуста II, загадаў казаком і калмыкам, якія былі ў ягонай арміі, падпаліць Віцебск. 28 верасьня 1708 году капітан Соловьев спаліў места і замкі. Улетку 1752 г, ізноў выгарэла частка замкаў. Урэшце 6 чэрвеня 1757 году, у часе пажару, згарэла і захаваўшаяся датуль частка Ніжняга замку [4]).

Ад Віцебскіх замкаў, на якіх некалі грунтавалася сіла Беларуска-Літоўскага гаспадарства і Рэчыпаспалітае [5]), у нашыя часы не асталося нічога. Захаваліся толькі астаткі ад Замковае гары [6]), ды ў памяці народнай жывуць легенды аб заклятай у гары цароўне [7]).

## II. Полацкія замкі.

Горад Полацак у рускіх летапісах успамінаецца пад 862 годам. Ён ужо здаўна быў ведамы сваімі ўмацаваньнямі. Ведама, што вялікі князь літоўскі Аляксандар у канцы XV стагодзьдзя загадаў давясьці Полацкі *замак* да абароннага стану [8]). Таксама ведама, што ў 1519

---

[1]) *А. Сапуновъ.* Витебская Старина, I, 621-622. — *А. Сапуновъ,* Историческія свѣдѣнія о Витебскомъ замкѣ. — Памятная Книжка Витебской губ. 1881 г.

[2]) *А. Сапуновъ,* Витебская Старина, I, № 156. — Ibid., IV, 2, № 78.

[3]) Ibid., I, 158.

[4]) *А. Сапуновъ,* Витебская Старина, I, № 168.

[5]) Volumina legum, IV, 218.

[6]) *Е. Бѣлозерскій,* Витебскій замокъ, „Витебскія Губернскія Вѣдомости", 1901, № 228.

[7]) *А. Афанасьевъ,* Поэтическія воззрѣнія славянъ на природу, Москва, 1868, II, 628. — „Витебскія Губернскія Вѣдомости", 1901, № 74.

[8]) *M. Stryjkowski,* Kronka Polska, XXI, разьдзел 7.

годзе маскоўскія ваяводы Васіль Годунов, князь Елецкій і Засекін, падыйшоўшы к Полацку з сільнаю татарскаю коньніцаю, спалілі прадмесьці і здабылі вонкавыя ўмацаваньні Полацку [1]. Полацкія ўмацаваньні былі ў 1561 годзе папраўлены і пашыраны [2].

Сучасьнік італьянец Аляксандар Гваньіні пісаў, што горад Полацак меў умацаваньне ў пастаці густога паркану і вастрогу, ды што замак быў драўляны з баштамі навакол яго [3].

31 студня 1563 году Полацак быў абложаны царом Іванам Грозным. 9 лютага полацкі ваявода Давойна загадаў падпаліць вастрог і пасад. У выніку гэтага расейцы атрымалі магчымасьць падсунуць шанцы бліжэй—пад самы замак ды таксама бліжэй падвезьці баявыя прылады. Маскоўскае войска запаліла замак і пабіла многа людзей, якія тушылі пажар. 15 лютага ваявода Давойна разам з уладыкаю выйшлі із замку і здаліся на ласку ворагаў. У часе гэтае аблогі Полацкія замкі крэпка пацярпелі: выгарэла 300 сажнёў сьцяны [4]. Цар даручыў баярыну Пётры Шуйскаму, ня бавючыся, паправіць замкі. Было загадана аглядзець у замку і ў горадзе сьцены, узнавіць разваленыя ці выгарэўшыя мейсцы, умацаваць іх ды засыпаць зямлёю; у сярэдзіне замкаў і ў горадзе, каля і на подступах да іх, равы, дзе тое спатрэбіцца, паправіць, а то дык і новыя пакапаць, каб былі глыбокія, з стромкімі краямі [5].

Кароль Сьцяпан Батура, выпусьціўшы 12 ліпня 1579 году маніфэст да войска аб вайне з Іванам Грозным, пастанавіў распачаць гэную вайну аблогай Полацку. Да гэтага часу і адносяцца першыя болей-меней пэўныя весткі аб Полацкіх замках. Іх мы знаходзім у Гэйдэнштэйна, гісторыка Сьцяпана Батуры. Паводле Гэйдэнштэйна, Полацак складаўся з двух замкаў: Верхняга, пабудаванага на ўзвышшы, і Ніжняга, або, як яго называлі маскоўцы, Стралецкага вастрогу, — ды з гораду Запалоцьця.

*Сярэдні* або *Верхні* замак быў пабудаваны на гары, скуль рассьцілаўся вельмі шырокі кругавід. На паўдні ад Верхняга замку — піша Гэйдэнштэйн—плыла Дзьвіна, на поўначы і на ўсходзе ад яго была Палота і горад Запалоцьце, а на захадзе — Стралецкі замак. Гара, на якой стаяў Верхні замак, была абрывістая з усіх бакоў. Яе акружалі штучна ўзмоцненыя глыбокія равы і высокія валы. Сьцены замковыя і вельмі моцныя башты яго былі зроблены з некалькіх злучаных між сабою радоў крэпкіх дубовых калод. Башт усяго было сем; адна з іх—усходняя, ведамая пад назовам Краснае або Каралеўскае,—была мураваная і адзначалася сваей велічынёй ды пышнасьцяй.

*Стралецкі* замак быў пабудаваны на ніжэйшым узвышшы дый не такім крутым. У ўсходняй часьці ён злучаўся з Верхнім замкам невялікім мастом. Гэйдэнштэйн апавядае, што горад стаяў некалі на гэтым баку Палоты, пад узвышшам. Падчас аблогі палякамі ён быў зруйнаваны, і маскоўцы ў гэтым мейсцы пабудавалі Стралецкі замак. Пазьней яны, дзеля гандлёвых мэтаў, пастанавілі адбудаваць горад.

---

[1] *Н. Карамзинъ*, op. cit. VII, 63.
[2] *А. Сапуновъ*, Витебская Старина, IV, 42.
[3] Z Kroniki Sarmacyi Europskiej Alexandra Gwagnina, 213.
[4] Н. *Карамзинъ*, op. cit. IX, увага 68.
[5] *А. Сапуновъ*. Витебская Старина, I, ч. 1, 50-60.

Аднак, з увагі на тое, што падступ да гэтага мейсца быў вельмі лёгкі, і палякі лёгка маглі-б ізноў заўладаць горадам, маскоўцы перанесьлі яго за Палоту, па той бок Верхняга замку, у кут, які тварыў суток дзьвюх рэкаў. У гэтым трыкутніку горад з аднаго боку абараняла Дзьвіна, з другога — Палота і з трэцяга — равы ды башты. Мейсца, дзе раней быў горад,— апавядае Гэйдэнштэйн, — называецца цяпер Пажарышчам[1]).

Паводле іншых вестак, горад ужо ад найдаўнейшых часоў быў пабудаваны там, дзе стаяў і ў другой палове XVI ст.,—значыцца, за Палотай. Магчыма, што словы Гэйдэнштэйна трэба разумець гэтак: ля падножжа замкаў было гэтак сама вялікшае пасяленьне, якое пасьля пажару падчас аблогі Іванам Грозным ня было адбудавана, і жыхары яго перабраліся за Палоту, дзе ўласьціва і быў горад.

*Горад* або *Запалоцьце* ў XVI ст. з усіх бакоў акружала драўляная сьцяна і глыбокі роў. Даўгі драўляны мост на палях, блізу пры самым усьці Палоты, злучаў горад з Верхнім замкам.




I Верхни замок. II Нижни замок III Заполотье

*Полацкія замкі ў 1579 г.*

*(Паводле С. Пахоловіча)* [2])

Аблогу Полацку, гэнага ключа Лівоніі і Беларуска-Літоўскага гаспадарства, Сьцяпан Батура распачаў у жніўні 1579 г. Тады ў Полацку ў верхнім горадзе, або вастрогу, камандаваў Пётра Волынскій,

---

1) *R. Heidenstein*, Pamlętniki wojny moskiewskiej, 53-54.—*K. Górski*, Pierwsza wojna Rzeczypospolitej z W.-Księstwem Moskiewskiem za Batorego. Biblioteka Warszawska, Warszawa 1892 II.

2) Журналъ Мин. Нар. Просв., 1837, XV.—*А. Сапуновъ.* Вит. Ст. IV, приложеніе—*А. Сементовскій,* Бѣлорускія древности, 48.

у Стралецкай крэпасьці — князь Зьміцер Шчербатый ды дзяк Ржеўскій, а ў Запалоцьці — князь Васіль Телятевскій. Штурм пачаўся на горад Запалоцьце. Пабудаваўшы супраць сьцен паветкі, Каспар Бэкеш пачаў граміць горад з гарматаў. Не спадзяючыся абараніць горад, маскоўцы падпалілі яго і самі адступілі ў замак. Угры справа ад гораду давялі свае шанцы да замку й Палоты. За імі йшлі шанцы палякоў і літоўскае пяхоты; урэшце, з таго боку замку, які прытыкаў да Стралецкага, пачалі падшанцовывацца немцы. Бэкеш пачаў абстрэліваць з гармат замак. Аднак, гэта не дало пажаданых вынікаў, бо сьцены замку былі зроблены з такога матэрыялу, каторы мог бы хутчэй дзе-не-дзе быць прабіты, чым развалены. Бэкеш пусьціў у ход каменныя кулі. Але, дзякуючы дажджліваму надвор'ю, і гэта не памагло. Тады пачалі клікаць ахвотнікаў, якія-б пайшлі падпаліць замак запаленымі паходнямі. Абаронцы замку скідалі на іх спэцыяльна загадзя прызапашаныя вялізарныя брусы. Старыя, жанчыны й дзеці цягалі на сьцены ваду і тушылі полымя. Часамі некалькі чалавек спускалася са сьцен на вяроўках і, зьвісаючы над падкладаным звонку агнём, залівалі яго вадой, якую ім падавалі зьверху. Страшэнная нястача еміны і ўсяго найпатрабнейшага павялічывала труднасьць аблогі. 29 жніўня кароль пачаў суліць сваім жаўнерам вялікія нагароды, каб яны кінуліся на сьцены. Падахвочанае гэтым войска, маючы ў руках прыгатаваныя паходні і ўсё неабходнае, кінулася на замак і пачало падпаліваць сьцены. Дождж крыху сьцішэў. Полымя абхапіла сьцены, зьніштажаючы ўсё на вялікім прасторы. У працягу цэлага дня абаронцы ўжо не маглі затушыць пажару. Насупраць выгарэўшае сьцяны замку яны насьпех выкапалі роў, сьцягнулі гарматы меншага калібру і гэтак ізноў тамака ўмацаваліся. У той-жа дзень маскоўцы пакінулі адну башту, якая згарэла. Назаўтрае угры падпалілі другую башту. Пажар бушаваў усеньку ноч. Утрата дзьвюх башт пазбавіла маскоўцаў прыкрыцьця ў такой меры, што ў сваіх уласных умацаваньнях яны не знаходзілі для сябе ўжо бясьпечнага мейсца. Тады, ня маючы ніякага ратунку, яны пачалі перагаворы аб здачы замку. Япіскап Кірыян і ваяводы рашуча выступалі проці здачы. Яны яшчэ раней, як пачаўся агульны пажар, хацелі ўзарваць усё і ўсіх, хто быў у замку, але жаўнеры не дапусьцілі да гэтага. 31 жніўня Полацак здаўся. У ім пераможцы захапілі 56 гармат вялікага калібру, некалькі дзесяткоў гакаўніц, вялікія запасы мушкетаў і пораху [1]).

Кароль загадаў адбудаваць замак паводле дадзеных ім інструкцыяў і выасыгнаваў на гэта грошы дый усё патрэбнае. Верхні замак быў ачышчаны ад цывільных жыхараў, якія былі стуль выселены і атрымалі мейсца ў Ніжнім замку.

У 1607 г. Полацкія замкі пагарэлі. Але, як відаць, былі ўзноўлены. У 1642 г. ўсе будоўлі Верхняга замку разам з акружаўшымі іх драўлянымі сьценамі й баштамі ізноў выгарэлі да-тла. У 1647 г. ізноў адбудаваны замак быў даведзены да абароннага стану. З ра-

---

[1]) *Н. Карамзинъ,* Исторія Гос. Росс. IX, 177. — *R Heidenstein,* op. cit. 55—74. — *K. Niedzielski,* Batory i car Iwan w zapasach o Inflanty, Warszawa, 30—31.

хунковых кніг гораду Полацку з 1654 г. [1]) відаць, што ваявода Іван Цімафеевіч у найважнейшых пунктах гораду пабудаваў башты, на адкрытых мейсцах паставіў сьцены ды паправіў і ўзмоцніў паламаныя й разваленыя часткі мястовае сьцяны. Але, як відаць, Полацкія замкі цалком адбудаваныя ўжо ня былі.

У 1654 г. Полацкія замкі былі драўляныя. Верхні замак меў 5 башт. Башты былі васьмікутныя або шасьцікутныя, рубленыя ў два бярвеньні. Мелі яны, лічучы з прыземным, па тры або па два бої. Васьмікутныя мелі ўвышкі ад 9½ да 11 сажнёў, шасьцікутныя—каля 5. На тых мейсцах, дзе старыя башты былі разбураны, стаялі драўляныя бычкі. Прастор паміж баштамі быў умацаваны розна. Былі тутака рубленыя драўляныя сьцены, якія йшлі раўналежна і былі пазлучаны папярэчнымі сьценамі, творачы глыбокія клеткі, напоўненыя зямлёй ды каменьнем. Сустракаўся і вастрог з сасновага дрэва. Даўжыня сьцен Верхняга замку дасягала 729½ сажнёў. Ніжні замак меў 8 башт. Усе яны былі ў два бої. Башты былі злучаны рубленымі сьценамі або стаячым вастрогам. Даўжыня сьцен Ніжняга замку мела 1231½ сажнёў. Запалоцьце было ўмацавана стаячым вастрогам, даўжынёй у 312 сажнёў, ды ровам. Берагі рову былі ўмацаваныя завостранымі стаячымі каламі, а за ровам быў стоцьма ўкапаны ў зямлю падвойны рад абрубкаў дрэва.

З апісаньня Полацкіх замкаў, зробленага ў 1664 г. [2]) з прычыны пераходу іх ад ваяводы Мікіты Вельямінова пад уладу ваяводы Багдана Нашчекіна, відаць, што азброеньне Верхняга і Стралецкага замкаў складалася з 50 гармат і 59 затынных пішчаляў. Зброя гэтая знаходзілася ў баштах, варотах, калітках, бычкох, у вывадах сьцен і, урэшце, проста ля сьцен. Гарнізон Полацкіх замкаў складаўся з 1555 душ, у тым ліку «ратных людзей» было 1357 і мяшчан 198.

У 1706 г. генаралу фон-Вэрдэну было загадана—у выпадку падыходу швэдаў пад Полацак з пераважаючымі сіламі—пакінуць горад, але зруйнаваўшы перш замкі. Генарал-інжэнер Баур, які ў 1780 г. езьдзіў па загаду імпэратрыцы Кацярыны II аглядаць Полацак з мэтай умацаваньня яго, бачыў яшчэ тамака астаткі былых замкаў. У 1772 г. Верхні замак займаў прастору 225 саж. удаўжкі і 135 саж. ушыркі, а Ніжні замак меў удаўжкі 190 саж. і ўшыркі 120 саж. [3]). У 1812 г. горад, акружаны падвойнай палісадай і глыбокім ровам, быў вельмі добра прыспасоблены дзеля абароны. Замкі ў тыя часы ня йгралі ўжо блізу ніякае ролі [4]).

У нашыя часы, па-за відочнымі йшчэ валамі Ніжняга замку, ад Полацкіх замкаў захаваліся адно толькі іх назовы.

---

[1]) *Н. Оглоблинъ*, Обозрѣніе историко-географическихъ матерьяловъ XVII и начала XVIII вѣковъ, заключающихся въ книгахъ Разряднаго Приказа, Москва, 1884. — *А. Сапуновъ*, Вит. Ст. IV, п. 2, № 86.

[2]) *А. Сапуновъ*, Витебская Старина, IV, ч. 1, № 69.

[3]) *П. Семеновъ*, Географическо-статистическій словарь Россійской Имперіи. С.-Петербургъ, 1873, IV, 165.

[4]) *А Сапуновъ*, Западная Двина, 525—429.

## III. Усьвяцкі замак.

У Вяліжскім павеце, на паўночным беразе Усьвяцкага возера, існуе адно з найдаўнейшых пасяленьняў Беларусі: *Усьвят.* У летапісах яно ўспамінаецца пад 1021 годам ужо, як горад, аддадзены вялікім князем кіеўскім Яраславам Мудрым князю полацкаму Брачыславу Ізяславічу [1]). У 1563 годзе цар Іван Грозны заўладаў Полацкам, а ў 1566 г. загадаў сваім людзям будаваць у Усьвяцкай воласьці *замак.* У тым-жа годзе, у месяцы ліпні, у Усьвяце на гарадзішчы, называўшымся Мяжова, быў пабудаваны замак [2]). Ён стаяў на гары паміж двума вазёрамі і ракою Усьвячаю. На захадзе ад замку было возера Узьмень, на ўсходзе — возера Усьвят, на паўдні — рака таго-ж назову [3]).

Віцебскі ваявода Станіслаў Пац у студзені 1569 году паслаў на пабудаваны ўжо замак войска пад камандай Бірулі. Гваньіні ў сваей хроніцы піша, што 17 студзеня пяхота пад маскоўскім замкам Усьвят, зруйнаваўшы агарожу, падпаліла горад. Узята было шмат вопраткі, грошы ды ўсякае зброі; ледзь ня быў здабыты й самы замак, але маскоўцам зьнекуль прыйшла падмога, і нападаўшыя адступіліся. 28 жніўня таго-ж году жаўнеры з Віцебску спалілі горад, што быў каля замку Усьвяцкага.

У 1579 г. Мікалай Зэбжыдоўскі і казакі з Віцебску падыйшлі пад Усьвят, спадзяючыся, што здолеюць захапіць яго неспадзяваным штурмам; аднак, пераканаліся, што замак ахоўвае варта, і ён мае ўсё патрэбнае дзеля абароны. У тым-жа годзе к Усьвяту падыйшоў з войскам Сьцяпан Батура і спыніўся пад замкам. Юры Сакалінскі з літоўскім войскам першы пачаў падвадзіць шанцы пад замак. Да яго далучыліся угры. За адну ноч шанцы былі падведзены пад самыя вароты замковыя—на адлежнасьць лёту стралы. Частым агнём нападаўшыя не давалі абаронцам магчымасьці аставацца ў процілежнай башце. Спалоханы гарнізон, бачучы з замку табор, раскінены на вялікім прасторы, ды пачуўшы аб набліжэньні караля, 15 верасьня паддаўся [4]).

Кароль Уладыслаў IV ў 1633 годзе на свой уласны кошт загадаў паправіць замак і давясьці да абароннага стану. 16 жніўня 1654 году к Усьвяту падступіў ваявода Сямён Стрешнев і крэпка аблажыў яго. Бітвы трывалі ўдзень і ўначы. Урэшце, 23 жніўня усьвяцкі падстараста Сьцяпан-Казімір Енткоўскі аддаў Усьвят маскоўцам. Замак быў зруйнаваны [5]).

## IV. Замак Стрыжаў.

У Лепельскім павеце, у маёнтку Стрыжава, на ўзьбярэжжы возера таго-ж назову, ёсьць даволі ўзвышанае мейсца, называнае Га-

---

[1]) *А. Сапуновъ*, Мѣстечко Усвятъ, Витебскъ 1889.
[2]) *Н. Карамзинъ*, Исторія Государства Россійскаго, IX, примѣчаніе 223.
[3]) *R. Heidenstein*, Pamiętniki wojny moskiewskiej, 113—119
[4]) *А Сапуновъ*, Витебская Старина, IV, ч. I 222, 230, 237.
[5]) Живописная Россія, С.-Петербургъ, 1882, 391—392. — Россія, С.-Петербургъ, 1905, IX, 465.

радзішчам. Частка Гарадзішча, якая—у кшталце паўвострава—больш узвышана над возерам, заканчываецца курганом, які мае назоў Янавае гары.

На гэтым паўвостраве стаяў *замак Стрыжаў*. У 1151 г. ён быў выдзелены ў асобны ўдзел. Кіеўскі князь Рагвалод Барысавіч, заўладаўшы Полацкам, аддаў Стрыжаў князю Усеваладу Глебавічу [1]).

У народзе захавалася легенда, што горад быў зьніштожаны падчас вайны. На Янавай гары быццам стаяў памятнік.

## V. **Вяліжскі замак.**

У горадзе *Вяліжы*, на правым беразе Дзьвіны пры ўтоку ў яе ручая Конеўца, захаваліся астаткі валу й рову ад колішняга ўмацаваньня [2]), якое стаяла на цяперашнім Замковым пляцу.

Ужо ў канцы XIV ст. ёсьць упамінаньне аб горадзе Вяліжы, як аб прыгарадзе Пскова. 19 красавіка 1536 г. маскоўскі вялікі князь Іван Васілевіч і маці ягоная Алена загадалі будаваць у Таропецкім павеце, на *Вяліжскім гарадзішчы*, замак [3]). Ваявода князь Іван Барбашын у ліпні таго-ж году закончыў пабудову ўмацаваньня [4]). *Замак* быў драўляны з 9-ма баштамі. З паўночна-заходняга боку подступ к замку бараніў стромкі бераг Дзьвіны; з другіх бакоў—глыбокі роў, у які напускалася вада з зага́чанага дзеля гэтае мэты ручая Конеўца [5]).

Вяліжскі замак, які стаяў над р. Дзьвіной у вельмі лясістай, поўнай балотаў і затым трудна праходнай мяйсцовасьці, лічыўся крэпкім умацаваньнем Масквы і служыў за базу дзеля опэрацыяў маскоўскіх войск проці Беларуска - Літоўскага гаспадарства і Польшчы. „Вяліж, —гаворыць Стрыйкоўскі,—вісеў над шыяй усяе Рускае Каралеўскае Украіны“. Дык за ўсякую цану трэба было яго здабыць або зьніштожыць. Ад паходу Вітаўта на Вяліж захаваўся назоў аднае вазёрнае грэблі—Вітаў мост [6]).

У 1563 г. Мікалай Радзівілл спаліў горад Вяліж, але ня здолеў здабыць замку. У 1567 г., падчас набегу з Віцебску пад Вяліж, было пабіта многа маскоўцаў, а іншыя, у страху ўцякаючы стуль, патанулі ў Дзьвіне. У студзені 1568 г. войска, пасланае віцебскім ваяводаю Станіславам Пацам, зрабіла новы неспадзяваны набег і спаліла Вяліж [7]). Апошні хутка быў адбудаваны [8]).

У часе вайны цара Івана Грознага з каралём Сьцяпанам Батурай Вяліж дастаўся ў рукі апошняга. Гісторык каралеўскі Гэйдэнштэйн

---

[1]) Россія, IX, 460.

[2]) *О. Киселевъ*, Велижъ, Витебскъ, 1895.

[3]) У інвэнтары Вяліжскага староства з 1737 г. ўпамінаецца яшчэ ў горадзе Вяліжы „dziesiątek Wałatowski“.

[4]) Полное Собраніе Русскихъ Лѣтописей, IV, 301, VI, 300.

[5]) *М Безъ-Карниловичъ*, Историческія свѣдѣнія о примѣчательнѣйшихъ мѣстахъ, въ Бѣлоруссіи, С.-Петербургъ, 1855, 124.

[6]) *А. Сементовскій*, Бѣлорусскія древности, 40.

[7]) *А Сапуновъ*, Витебская Старина, IV, ч. 1, 228.

[8]) *Н Карамзинъ.* Исторія Государства Россійскаго, IX, 70. — *M. Stryjkowski* Kronika Polska, II, 418.

піша, што Вяліж быў некалі вельмі людным горадам. Жыхары паказывалі прасторныя равы, як знакі мінулае велічы гораду. Вяліж у другой палове XVI ст. займаў даволі вялікі прастор і быў умацаваны 9-ма баштамі. З паўдня і з усходу яго абмывала Дзьвіна; з поўначы—ручай, які, ніжэй замку, праз возера ўліваўся ў Дзьвіну. З усіх бакоў, асабліва-ж з захаду, замак акружалі вельмі глыбокія равы. Апрача таго навакол замку была зроблена засека з зваленых дзярэў.—Паводле іншых вестак, замак, апрача сьцен ды глыбокага рову, быў акружаны яшчэ й дубовай палісадай [1]).

Пры такіх умацаваньнях браць замак штурмам была рэч рызыкоўная. Дык пасланы пад Вяліж Сьцяпанам Батурай гэтман Ян Замойскі, маючы даволі гармат ды 8.000 пяхоты й коньніцы, пачаў акружаць горад шанцамі і абстрэліваць яго калёнымі ядрамі. Хутка загарэлася прадмесьце, пасьля—адна, а за ёй і другая драўляныя башты, абкладзеныя дзярном. Урэшце загарэўся мост. Гарнізон, бачучы, што далейшая абарона немагчымая, 6 жніўня 1580 году здаў абгарэлы замак Замойскаму. У замку былі знойдзены вялікія запасы еміны, фуражу, пораху й снарадаў [2]).

Сьцяпан Батура, прыдаючы асаблівую вагу Вяліжскаму замку, 20 сакавіка 1585 году абвясьціў Вяліж стараствам, даў яму гэрб, а жыхарам яго—розныя прывілеі. Адначасна кароль абавязаў вяліжскіх мяшчан паправіць замак.

У 1616 г. расейцы спалілі прадмесьце Вяліжу — Віцебскі пасад ды многа народу зарубілі. 4 кастрычніка 1654 году цар Алясей Міхайлавіч паслаў жыхарам Вяліжу грамату, намаўляючы іх здаць горад без праліцьця крыві. Ваявода Мацьвей Шереметев аблажыў Вяліж. 17 ліпня 1655 г. падстараста Іван Дамашэўскі здаў горад расейцам [3]). У 1678 г. Вяліж, разам з Невелем і Себежам, быў вернены царом Хведарам Аляксеевічам Польшчы—з усімі старымі гарматамі, запасамі ды ўсялякай зброяй, што былі ў ім да вайны [4]).

15 ліпня 1697 г. уначы Вяліжскі замак згарэў ад пяруна [5]).

## VI. Дрысьсенскі замак.

Там, дзе цяпер стаіць горад *Дрысса*, на ўзьбярэжным узвышшы, у самым куце паміж рэкамі Дзьвіной і Дрыссай, у XIV ст. існавала ўжо *ўмацаваньне*. У 1386 г. яго здабыў і спаліў князь Андрэй Альгердавіч. Дрысьсенскі *замак* быў узноўлены па загаду караля Жыгімонта Аўгуста. Тады-ж яму дадзены былі гарматы і амуніцыя. У 1563 г. замак быў здабыты войскам Івана Грознага. Пазьней кароль Сьцяпан Батура адваяваў замак назад)[6]. З наказнае

---

1) *K. Niedzielski*, Batory i car Iwan, 65.

2) *R. Heidenstein*, Pamiętniki... 112, 117.

3) *А. Сапуновъ*, Витебская Старина, IV, ч. 2, 18—37.

4) Дѣло о учиненіи въ разрядѣ выписки, какъ города Невель, Велижъ и Себежъ были взяты и сколько въ нихъ находилось тогда пушекъ, ружей и прочихъ артиллерійскихъ и хлѣбных припасовъ, по случаю возвращенія помянутыхъ городовъ королю Польскому 1678 г. августа 7.—Витебскія Губернскія Вѣдомости, 1887, № 20.

5) *А. Сапуновъ*, ib., I, 460.

6) *А. Сапуновъ*, Западная Двина, 449—450.

каралеўскае граматы 1577 г. відаць, што ў гэным годзе было загадана давясьці Дрысьсенскі замак да абароннага стану [1]).

Сьлядоў ад замку не асталося: вал раскапаны, роў засыпаны [2]).

## VII. Себежскі замак.

На Себежскім возеры стаіць горад *Себеж*. Пабудаваны Себеж на значным узвышшы, як-быццам на востраве. Толькі на паўдні вузкі пярэсмык злучае горад з сухаземлем. Себеж лічыўся прыгарадам Пскова і быў здабыты і спалены вялікім князем Вітаўтам у 1414 г. падчас паходу апошняга супраць пскавіцян.

У 1535 г. расейскія войскі пад камандай князя Васіля Шуйскага занялі часьць Беларусі. Было пастаноўлена пабудаваць у Себежы крэпасьць і з гэтай мэтай паслаць туды італьянскага архітэктара Фрязіна. Аднак той, перад самай адпраўкай яго, уцёк з Масквы [3]). Тады выпаўненьне заданьня было ўзложана на ваяводу Бутурліна. Закладзіны *крэпасьці* адбыліся 29 чэрвеня, а 20 ліпня яна была закончана [4]). Яе пабудавалі ў тым мейсцы, дзе цяпер стаіць горад. Навакол яе ішоў высокі зямляны вал даўжынёй у 170 сажнёў. Самая будоўля замковая была драўляная. Замак сам па сабе быў вельмі слабы, але выбранае для яго мейсца з стратэгічнага гледзішча давала для абароны вялікую карысьць. Дзеля асьвячэньня трох новазбудаваных цэркваў быў прысланы сюды архіяпіскап Макары, які і гораду, і *замку* даў назоў *Іван-Горад на Себежы*. Гэты замак выклікаў сваркі паміж Масквой і Польшчай і неаднакротна пераходзіў із рук у рукі.

Кароль Жыгімонт I загадаў кіеўскаму намесьніку Няміры ўзяць і разбурыць крэпасьць. Няміра, сабраўшы каля 20.000 войска, 27 лютага 1536 г. падыйшоў пад крэпасьць. Аблога была няўдалая. Маскоўцы зрабілі выпад і адкінулі нападаўшых на возера. Лёд на возеры заламаўся, і вялікая лічба людзей пагібла ў возеры. Астаткі, за якімі гналіся маскоўцы, уцяклі, пакінуўшы знамёны й гарматы [5]).

У 1562 г. польскае войска напала на крэпасьць і спаліла яе. У 1570 г. Себеж паволе ўгоды дастаўся маскоўцам, але ў 1579 г. кароль Сьцяпан Батура яго захапіў. Замак быў адбудаваны.

У 1654 г. войска цара Аляксея Міхайлавіча здабыла Себеж. Ваявода Сьцяпан Бухвостов у данясеньні цару пісаў, што Себеж мае вакольнага гораду 704 сажні, а крэмль мае 78 саж. у акружыне, крэмлёўскі вал увышкі дасягае 16 саж., а вал вакольнага гораду—9 саж.; у вакольным горадзе 4 варот, з якіх адны вароты летнія, ды ўсё гэта на гары; пад летнімі варотамі, на пярэсмыку, рэчка Серабранка з возера ў возера перакапана, удаўжкі на 250 сажн., ушыркі на 6 сажн.; на рэчцы мост на пáлях; уздоўж рэчкі Серабранкі пастаўлены дубовы частакол.

---

[1]) Акты Западной Россіи, III, № 90.

[2]) *М. Безъ-Корниловичъ*, Историческія свѣдѣнія о примѣчательнѣйшихъ мѣстахъ въ Бѣлоруссіи, 136.

[3]) *Валишевскій*, Іоаннъ Грозный.—Русская Старина, 1904, VIII, 406.

[4]) Полное Собраніе Русскихъ Лѣтописей, VIII, гл. 65

[5]) Полн. Собр. Русск. Лѣтописей, IV, 301; VI, 298; VIII, 291.

Цар Аляксей Міхайлавіч у 1656 годзе загадаў падчас зімовае дарогі прыгатаваць лес, а ўвесну паставіць вастрог, хоць невялікі, з усімі „крѣпостьми“. Бухвостов на гэта адказаў, што малога вастрогу нельга паставіць, бо старога гарадзішча немагчыма абрэзаць. Цар загадаў будаваць крэпасьць „помысля съ тамошними людьми“. Будаваць загадана было себежскімі людзьмі і людзьмі сумежных Асвейскага, Люцынскага і Рэжыцкага паветаў [1]).

У 1678 г. Себеж быў вернены Польшчы [2]).

Цяпер у Себежы існуе гара, называная Замковай, але на ёй ніякіх руінаў ад былага замку няма [3]).



*Замак у Себежы.*

*(Рэканструкцыя. Рысунак Дмахоўскага).* [4])

Займаючы выгоднае з стратэгічнага гледзішча палажэньне, Себеж, дзякуючы гэтаму палажэньню, вельмі лёгка мог быць даведзены да абароннага стану і стацца недаступным. Гэта ў 1812 г. выкарыстаў корпус Вітгенштэйна, які на ўзвышшах перад Себежам загадаў капаць шанцы, складаўшыяся з валу й рову. Сьляды гэтага ўмацаваньня захаваліся на ўзьбярэжжы возера ў заходняй часьці гораду [5]).

---

[1]) *Д. Сапуновъ*, Укрѣпленіе г. Себежа въ 1656 г.—Витебскія Губернскія Вѣдомости, 1887, №№ 9—10.

[2]) Витебскія Губернскія Вѣдомости, 1887, № 20.

[3]) *Н. Мещерскій, Н. Пестовъ и А. Сапуновъ,* Краткій историческій очеркъ Невеля и Себежа.—Памятная Книжка Витебской губ. на 1888 годъ, Витебскъ, 1888.

[4]) Живописная Россія, II. 387.

[5]) Военно-Статистическое Обозрѣніе Россійской Имперіи, СПБ. 1852, VIII ч. 1, 222—223 —*А. Сементовскій,* Бѣлорусскія древности, СПетербургъ, 1890, 51.

## VIII. Варонецкі замак.

У Лепельскім павеце, на заходнім узьбярэжжы возера Варонеча, ля ракі Ушачы, дзе цяпер мястэчка *Варонеч*, стаяў крэпка ўмацаваны *замак*. Ён быў пабудаваны па загаду караля Жыгімонта Аўгуста[1]. Калі Полаччына была заваявана Іванам Грозным, дык Варонеч лічыўся пскоўскім прыгарадам. У 1581 г. Сьцяпан Батура адваяваў гэты прыгарад, але пры падпісаньні міру ён астаўся за Масквой. У часе самазванцаў Варонеч ізноў увайшоў у склад Беларуска-Літоўскага гаспадарства [2]).

Варонецкае гарадзішча, ведамае ў народзе пад назовам *Замку*, дзеліцца на тры часьці: усходнюю, заходнюю і паўдзённую. Яны аддзяляюцца адна ад аднае ўглыбленьнямі. Форма гэтых часьцей трыкутная. Акружына ўсяго гарадзішча 660 сажнёў [3]).

## IX. Гомельскі замак.

У Полацкім павеце, над ракой Тураўкай, дзе цяпер мястэчка *Гомель*, па загаду караля Жыгімонта Аўгуста было пабудавана зямлянае *ўмацаваньне*, абведзенае ровам. На крутым прыгарку, дзе было гэтае ўмацаваньне, яшчэ відаць сьляды валу й рову.

Можна думаць, што дзеля пабудовы Гомельскага ўмацаваньня было выкарыстана старадаўнае гарадзішча [4]).

## X. Невельскі замак.

На ўзвышшы, якое, быццам рог, уваходзе ў Невельскае возера, пры ўтоку рэчкі Еменкі яшчэ ў шасьцідзясятых гадох мінулага стагодзьдзя можна было бачыць астачу валу й рову стаяўшага тут *Невельскага замку*. Мейсца, дзе ён быў пабудаваны, яшчэ й сягоньня называецца Замкам. Вал і глыбокі роў аддзялялі замак ад гораду Невеля [5]).

У тэстаманьце Івана Грознага Невель залічаны да гарадоў, заснаваных за ягонага панаваньня. Трэба думаць аднак, што цар пабудаваў толькі *крэпасьць*, самы-ж горад існаваў ужо раней. Стаючы на граніцы, Невель часта пераходзіў із рук у рукі.

У 1562 годзе, пасьля крывавае бітвы, ня гледзячы на мужнасьць начальніка Невельскага замку Давойны, расейцы здабылі замак. Хутка пад Невель падыйшлі 4.000 літоўскага войска. На іх напаў князь Курбскій з 15-ма тысячамі жаўнераў, але сам быў разьбіты літоўскім войскам [6]). Замак аставаўся ў руках маскоўцаў да 1580 г. У гэтым

---

[1]) *R. Heidenstein*, Pamiętniki... 50.
[2]) Живописная Россія, III, 388.
[3]) Извѣстія Императорской Ар‹еологической Комиссіи, СПБ, 1903, V, 17.
[4]) *М. Безъ-Корниловичъ*, сторическія свѣдѣнія о пртмѣчательнѣйшихъ мѣстахъ въ Бѣлоруссіи, 124,—Живописная Россія, III, 390.
[5]) *П Семеновъ*, Географическо-статистическій словарь Россійской имперіи, С.-Петербургъ, 1867, III, 408.
[6]) *А. Сапуновъ*, Витебская Старина. IV, ч. 1, 157—158.

годзе полацкі ваявода Дарагастайскі падступіў пад Невель з атрадам ўграў пад камандай Івана Борнеміссы, маючы некалькі гармат вялікага калібру. Прыступаючы да аблогі, Борнемісса пачаў падвадзіць шанцы пад замковыя ўмацаваньні і павялічываць тыя шанцы, якія былі ўжо выкапаны раней літоўскім войскам. Калі гэтая работа падсунулася да рову, які акружаў замак з боку сухаземля, дык нападаўшыя наткнуліся на сьцяну з бярвеньняў, высокую на 10 стоп. Сьцяна была зьвязана папярэчнымі брусамі і засыпана ад нізу да верху зямлёй. Гэтай сьцяной расейцы ўмацавалі край рову. Зьнішчыўшы гэту перашкоду тапарамі, нападаўшыя падступілі да сьцен замку. Замак быў акружаны драўляным вастрогам і добра прыкрыты зямлёй. Але гайдукі лоўка адкапалі зямлю і подпалілі замак. Абаронцы замку гэтак здумеліся, што, ня гледзячы на апор сваіх ваяводаў Боброва, Колычева і Бібікова, паддаліся. Пажар быў затушаны, і замак, уцалеўшы гэтак, перайшоў у каралеўскія рукі [1]).

У 1582 г., паводле ўгоды, Невельскі замак ізноў перайшоў пад уладу Масквы. Азброеньне замку складалася тады з 8 гармат вялікага калібру, 4 гармат меншага калібру ды 120 ручніц. У 1634 г. Невель, на падставе міравое ўмовы, вярнуўся пад Польшчу, але ўжо ў 1655 г. — блізу без апору — яго ізноў занялі расейцы [2]). Толькі ў 1678 г. Невель ізноў адыходзе пад Польшчу [3]). Кароль Ян Казімір падараваў Невельскае староства разам з замкам гэтману Янушу Радзівіллу [4]).

У 1809 г., калі прыпатрэбілася мейсца дзеля пашырэньня гораду Невеля, зямляны вал, што аддзяляў замак ад „дваранскага“ кварталу, быў раскапаны і мейсца гэтае забудавана [5]).

## XI. Суражскі замак.

На левым беразе ракі Дзьвіны, пры ўтоку ў яе рэчак Суражкі і Касплі, у XVI стагодзьдзі ляжала маетнасьць князёў Сапегаў Држэвелікі. Яна прытыкала да трох сплаўных рэк: Дзьвіны, Касплі і Усьвячы. Кароль Жыгімонт Аўгуст, баючыся, што маскоўцы могуць у гэтым раёне пабудаваць умацаваньне, якое зьвязала-бы Смаленск Вялікія Лукі, загадаў сьпешна паставіць у маетнасьці Сапегаў *замак.* У 1563 годзе віцебскі ваявода князь Сьцяпан Збараскі выпаўніў каралеўскі загад. Тут быў пабудаваны драўляны замак, названы *Суражам* [6]).

Каб прывабіць да новага замку жыхараў, кароль у 1570 г. надзяліў суражскіх мяшчан тымі-ж правамі й вольнасьцямі, якімі карысталіся віцебляне. У 1616 г. горад Сураж быў спалены расейцамі.

---

[1]) *R Heidenstein*, Pamiętniki... 138—139.

[2]) Дополненіе къ Актамъ Историческимъ, III, № 124 — *А. Сапуновъ*, Витебская Старина, IV, ч 2, 10—12

[3]) Витебскія Губернскія Вѣдомости, 1887, № 20.

[4]) Живописная Россія, III, 392—393. — Россія, IX, 449.—*М. Безъ-Корниловичъ*, Историческія свѣдѣнія... 139—140.

[5]) *Н. Мещерскій, Н. Пестовъ и А. Сапуновъ*, Краткій историческій очеркъ Невеля и Себежа.—Памятная книжка Витебской губ. на 1888 годъ, 23.

[6]) *K. Niedzielski*, Batory i car Iwan, 65.

У 1654 г. ваявода Сямён Стрешнев аблажыў замак, які і паддаўся яму 22 лістапада таго-ж году¹). У 1667 г., паводле ўгоды, Сураж быў вернены Польшчы ²).

У пяцьдзесятых гадох мінулага стагодзьдзя яшчэ было відаць астаткі ад былага замку. Відаць было і роў, шмат дзе засыпаны зямлёю і забудаваны дамамі ³).

## XII. Замак Туроўля.

У Полацкім павеце, у 18 вярстох на паўдзённы ўсход ад Полацку, каля вёскі *Туроўлі* ёсьць урочышча Гарадзішча. Тут, на правым




*Замак Туроўля.*

*(Паводле рысунку С. Пахаловіча).*⁴)

¹) *А Сапуновъ,* Вит. Ст., IV, ч. 2, № 2.
²) *А. Сапуновъ,* Западная Двина, 368—369.
³) *М. Безъ-Корниловичъ,* Историческія свѣдѣнія..., 143—144.
⁴) Журналъ Мин. Нар. Просв., 1837, XV.

беразе рэчкі Тураўкі, непадалёк ад утоку яе ў Дзьвіну, паміж Тураўкай, Дзьвіной і бязыменным возерам, стаяла *крэпасьць.* Яна была мураваная і мела форму чатырохкутніка з пяцьма баштамі [1]. Паводле адных вестак, крэпасьць была пабудавана ў 1563 г. палякамі [2]; паводле другіх — па загаду цара Івана Грознага. Апошняе больш згодна з праўдай, бо ў рэестры (1580 г.) сёлаў, аддадзеных каралём Сьцяпанам Батурай полацкім езуітам, знаходзім сяло Турава з згарэўшым маскоўскім *замкам* [3].

Пасьля заняцьця Полацку Сьцяпанам Батурай, віленскі ваявода Мікалай Радзівілл паслаў пад Туроўлю атрад казакоў пад камандай Марціна Курча разам з уллаўскім старастай Канстанцінам Лукомскім. Гарнізон Туроўлі, бачучы, што пажары й канонада ў Полацку ад нейкага часу спыніліся, зразумеў, што горад ужо здабыты; дык вось, калі падыйшлі казакі, маскоўскае войска падумала, што гэта йдзе ўся варожая армія, і кінулася наўцекі праз проціележныя вароты. Усе высілкі начальнікаў спыніць войска былі дарэмныя. Ваяводы, якія асталія намесцы, былі адасланы да караля. Уся зброя, порах і запасы ежы дасталіся паляком. Сталася гэта 4 верасьня 1579 г., а праз некалькі дзён, калі князь Лукомскі на знак радасьці загадаў паліць з усіх гармат, замак згарэў [4].

## XIII. Замак Казьян.

У Гарадоцкім павеце, ля ракі Аболі, ёсьць сяло *Казьян.* Цар Іван Грозны, здабыўшы ў 1563 г. Полацак, загадаў пабудаваць тутака *крэпасьць* [5].

Згодна з рысункам С. Пахоловіча з 1579 году, крэпасьць Казьян мела форму трыкутніка з трыма баштамі на вуглох. Рака Обаль якбы апісывае кола навакол крэпасьці. Тут-жа непадалёк у раку Обаль уліваецца рэчка Скаціца.

Крэпасьць праўдападобна стаяла ў тым мейсцы, дзе цяпер урочышча Гарадзішча, непадалёк ад вёскі Красамаю [6].

Пры першых чутках аб паходзе караля Сьцяпана Батуры на Полацак, літоўскія казакі пад камандай Францішка Жука 23 ліпня 1579 г. неўспадзеўкі напалі на замак Казьян, здабылі яго і зраўнавалі з зямлёй [7].

## XIV. Лепельскі замак.

У 1563 г. маскоўцы, заняўшы Полацак, спалілі сяло Лепель, ведамае з дакумантаў яшчэ ў 1439 г. На мейсцы спаленага Лепеля, на паўдзённым узьбярэжжы Лепельскага возера, на паўвостраве, які

---

1) *А. Сапуновъ,* Рисунки крѣпостей, построенныхъ по повелѣнію царя Ивана Васильевича Грознаго, 7.
2) Живописная Россія, III, 390.
3) Историко-юридическіе матеріялы, II, Витебскъ, 1872.
4) *R. Heidenstein,* Pamiętniki..., 72—73.
5) Россія, IX, 452,
6) *А. Сапуновъ,* Рисунки крѣпостей..., 11.
7) *R. Heidestein,* Pamiętniki..., 50—52.




*Замак Казьян.*

(*Паводле рысунку С. Пахаловіча*) [1].

творацъ рэкі Улла і Эсса, яны ў тым жа годзе заклалі *крэпасьць* і пакінулі ў ёй даволі значны гарнізон. Але ў тым жа 1563 годзе гэтман Радзівілл адабраў Лепель, зьніштожыў умацаваньне і выразаў гарнізон. 17 чэрвеня 1568 году кароль Жыгімонт Аўгуст загадаў збудаваць *замак*. Пабудову замку выпаўніў полацкі каштэлян і стараста лепельскі Юры Зенаўевіч. Дзеля прысьпешаньня будовы замку, па загаду караля, былі пакліканы людзі з бліжэйшых сёлаў, належаўшых да зямянаў [2]). Збудаваны замак меў сталы гарнізон у ліку 100 пяхоты і 200 коньнікаў, утрымліваных коштам дзяржаўнага скарбу.

Лепельскі замак стаяў там, дзе цяпер стаіць праваслаўная цар-

---

[1]) Журналъ Мин. Нар. Просв., 1837, XV.

[2]) Акты Западной Россіи, III, № 43.

ква [1]). На даўгім паўвостраве, насупраць Старога Лепеля, відаць старадаўны магільнік і астаткі ўмацаваньня. Пярэсмык паўвострава быў некалі перарэзаны глыбокім ровам, астачу якога відаць і дагэтуль [2]).

## XV. Замак Няшчодра.

У Себежскім павеце, на мысе, які далёка ўваходзіць з усходу у абшырнае возера Нішча, за вёскай Гарадком ёсьць гарадзішча. Тут—пасьля заняцьця Полацку царом Іванам Грозным у 1563 годзе—ваяводай Хведарам Шереметевым было пабудована *ўмацаваньне Няшчодра.* 13 сьнежня 1579 г. полацкі ваявода Іван Дарагастайскі здабыў і спаліў *замак* Няшчодру. Тады былі ўзяты ў палон 4 ваяводы і 1.000 душ мужчын, жанчын і дзяцей. Ад мяча і агня падчас ахапіўшага замак з усіх бакоў пажару пагібла звыш 2.000 маскоўцаў, якія ўпорліва абараняліся [3]).

Гэтая мяйсцовасьць мае цяпер назоў Гарадок. Тут-жа на ўзгорку ёсьць княжая *магіла.* Аб ёй існуе легенда, што нейкі магутны князь, прагавіты на багатую дабычу, падступіў пад замак з войскам, уварваўся ў яго, выразаў усіх жыхараў замку і засеў у ім з сваей дружынай. Але Бог пакараў яго за бязьвінна пралітую кроў. Дружына вымерла ад чумы. Перапалоханы гэтым князь закапаў свае скарбы ў гары і пакінуў горад, аднак і сам памер ад чумы. Над яго магілай і насыпаны курган [4]).

## XVI. Замак Сітна.

У Полацкім павеце, на стромкім паўдзённа-заходнім узьбярэжжы возера Сітна, у тым мейсцы, дзе з яго выцякае рака Палота, стаіць сяло *Вялікае Сітна.* Тут маскоўцы, здабыўшы ў 1563 г. Полацак, заклалі *крэпасьць.*

У сьнежні 1566 г. літоўскія казакі, пад камандай Бірулі, хітрыкамі заўладалі крэпасьцяй і выразалі маскоўскі гарнізон лікам каля 300 душ. Пры гэтым былі здабыты некалькі малых гармат, 120 гакаўніц ды шмат пораху і куль. Крэпасьць спалілі [5]).

Маскоўцы адбудавалі Сітна. Паводле рысунку С. Пахоловіча з 1579 г., крэпасьць гэту з двух бакоў амывала р. Палота, а з трэцяга — возера. У крэпасьці былі чатыры башты і вароты [6]).

У 1579 г., па загаду караля Сьцяпана Батуры, літоўскае і ўгорскае войска з-пад Полацку неспадзявана напала на Сітна і 4 жніўня спаліла замак [7]).

---

1) *Д. Довгялло,* Лепель. Витебск 1906 — *М. Безъ-Корниловичъ,* Историческія свѣдѣнія..., 111—112

2) *И. Горбачевскій,* Лепельскій уѣздъ, Витебскъ, 1895. 30

3) *M. Stryjkowski,* Kronika Polska, II, 430—433.

4) Россія, IX, 450.

5) *А. Сапуновъ,* Витебская Старина, IV, ч. 1, 235.

6) *А. Сапуновъ,* Рисунки крѣпостей..., 11.

7) *R. Heidenstein,* Pamiętniki..., 52.




*Замак Сітна.*

(*Паводле рысунку С. Пахоловіча*) [1].

## XVII. Замак Улла.

У мястэчку *Ульле*, Лепельскага пав., пры ўтоку ракі Уллы ў Дзьвіну, дагэтуль яшчэ захаваліся валы, якія акружаюць клін паміж дьвюх рэкаў. Захаваўся і вал, ведамы пад назовам Батуравага шанцу, уздоўж паўдзённага і ўсходняга бакоў кліну. У катлавіне, утворанай валамі, дзе цяпер стаіць праваслаўная царква, быў *замак*.

Пасьля заняцьця Іванам Грозным у 1563 г. Полацку, кароль Жыгімонт Аўгуст, з дапамогай нейкага вэнэцыянскага інжэнера, пачаў умацоўваць вусьце ракі Уллы. Маскоўцы пабілі работнікаў і інжэнера, і работа спынілася [2]). Тады цар Іван Грозны ў 1567 годзе загадаў

[1]) Журналъ Мин. Нар. Просв., 1837, XV.

[2]) *R. Heidenstein*, Pamiętniki..., 50—52.

пабудаваць *замак* на паўвостраве, твораным р. р. Дзьвіной і Уллай [1]. Навакол замку была драўляная сьцяна з баштамі. У 1568 г. Жыгімонт-Аўгуст распачаў шырокую падгатоўку да вайны і сабраў 100.000 войска. Значная часьць гэтага войска пад камандай жмудзкага старасты Яна Хадкевіча была паслана к замку Ульле. 4 сакавіка 1568 г., прастаяўшы пад замкам тыдні тры, Хадкевіч пісаў каралю, што выпрабаваў розныя спосабы дзеля здабыцьця замку, разьбіў і падзіравіў, як рэшата, башту над Уллаю ды сьцены да сярэдняе башты, але яны гэтак крэпка збудаваны й напоўнены зямлёю, што ні башта, ні сьцены ня валяцца [2]). Хадкевіч адступіў.

У тым жа 1568 г. 20 верасьня гэтман кн. Раман Сангушка здабыў і спаліў маскоўскі замак Уллу. Марцін Бельскі ў сваёй Хроніцы гэтак апавядае аб гэтым факце. Перад усім гэтман паслаў казакоў на лодках пад замак, а сам з людзьмі, адрэзаўшы непрыяцеля ад Полацку й Туроўлі, загадаў пяхотным ротмістрам Рачкоўскаму і Тарноўскаму падсунуцца з лесьвіцамі пад сьцены. Казакі з Біруляю, Мінком і Аскеркаю здабылі земляное ўмацаваньне. Другія пачалі рубіць вароты й каліткі, іншыя-ж падпалілі замак. Перад тым, уцешыўшыся з прыходу на ўспамогу стральцоў, маскоўцы напіліся. У вароцех падпаленага замку пачалася бітва ручным аружжам. Ротмістр Мікалай Салагуб, пераправіўшыся праз Уллу, падтрымаў пяхоту, якая лезла па лесьвіцах на сьцены і рубілася з маскоўцамі ў вароцех. Калі замак быў ахоплены полымем, князь Сангушка паслаў туды сваю роту ды ротмістраў Войну, Тышкевіча і князя Лукомскага. Тыя магутным націскам з усіх бакоў грамілі і білі ўпарта бараніўшыхся ў вагні маскоўцаў. Замак быў здабыты. Пры гэтым былі ўзяты ў палон два ваяводы Вельяміновы, 300 выдатных асоб ды 800 стральцоў з пішчалямі. Замак згарэў.

Пасьля замак быў адбудаваны. У 1580 г. Сьцяпан Батура, агледзіўшы замак, прыйшоў да перакананьня, што з усходняга боку ён не даволі ўмацаваны. Кароль загадаў насыпаць паміж Дзьвіной і Уллай *шанец*, які меў увышкі 6 сажнёў [3]).

Падчас вайны з царом Аляксеем Міхайлавічам у 1654 г. Улла ізноў была занята расейцамі і спалена [4]).

## XVIII. Чашніцкі замак.

У мястэчку *Чашніках*, Лепельскага пав., на правым беразе Уллы, там, дзе цяпер каталіцкія могілкі, стаяў некалі *замак*. Пабудавалі яго маскоўцы па загаду цара Івана Грознага [5]).

Замак гэты памятны бітвай пад сьценамі яго 23 студня 1564 г. Маскоўскі атрад пад камандай кн. Пётры Шуйскага,- лікам у 25.000 душ, быў—праз недагляд сваіх начальнікаў—неўспадзеўкі заатакаваны

---

[1]) *Н Карамзинъ.* Исторія... IX, 74.
[2]) Акты Западной Россіи, III, № 41
[3]) *А. Сапуновъ*, Витебская Старина, IV, ч. 1, 160—161, 224.
[4]) *К. Tyszkiewicz,* Wiadomość historyczna o zamkach, horodyszczach i okopiskach starożytnych na Litwie i Rusi Litewskiej, Wilno, 1869. — *А. Сапуновъ*, Зап Дв., 404—405.
[5]) *Н. Карамзинъ*, Исторія..., IX, примѣчаніе 99. — *И Горбачевскій*, Лепельскій уѣздъ, 32

арміяй Мікалая Радзівілла. Маскоўцы былі зусім разгромлены. Палёг сам Шуйскі, а з ім 4 князі і 3 ваяводы. Лічба забітых наагул дасягала 9.000. Многа было ўзята ў палон, у тым ліку 12 ваявод і многа дзяцей баярскіх. Захоплены быў табор, які складаўся з 3.000 вазоў[1]. У памяць гэтага здарэньня тамака стаіць крыж з надпісам, захаваны дагэтуль [2]. Трэба думаць, што тады-ж быў зруйнаваны і замак, бо пасьля гэтага, па загаду караля Жыгімонта Аўгуста, тут пазьней збудавалі новы замак [3].

Вясной 1568 г. Раман Сангушка з 1.900 коньнікамі прыйшоў пад Чашнікі, каб мець вока над маскоўскім войскам, бо ў той час Іван Грозны за зборны пункт для расейскіх аружных сілаў назначыў Воршу. Сангушка, дачуўшыся тут аб пераправе праз Дняпро 8-тысячнага маскоўскага атраду Амурата і Палецкага, выступіў з Чашнікаў і напаў неўспадзеўкі на галоўны стан. Часьць маскоўскага атраду была зьніштожана, часьць кінулася наўцекі. Амурат і Палецкій былі забіты. Пасьля гэтага Сангушка, даведаўшыся, што із Уллы к Сушы выйшаў Шчербатов з 6.000 маскоўцаў і 3.000 татараў пад камандай Сегіта, зрабіў у лесе ля дарогі засаду і, выбраўшы мамэнт, калі войска спынілася дзеля адпачынку, напаў на яго ды блізу палову вынішчыў [4].

## XIX. Замак Азярышча.

У Гарадоцкім павеце, на заходнім узьбярэжжы возера Азярышча, насупраць мястэчка *Азярышча*, на паўночным канцы паўвостраву, ведамым пад назовам Гарадзішча, захавалася астача валу ад быўшага тут *замку*. Гэты вал, даўжынёй у 168 мэтраў, загібаецца блізу пад простым кутом і ўпіраецца сваімі канцамі ў бераг возера. Вугал валу мае вышэйшы насып і скіраваны ў бок мястэчка, з якім паўвостраў злучаецца вузкім (18 мэтраў ушыркі) пярэсмыкам. З вонкавага боку валу існаваў, як віцаць, глыбокі роў, які напаўняўся вадой із возера.

Апрача ўмацаваньня на ўзьбярэжжы існавалі ўмацьваньні і на востраве возера. Чысьленыя астаткі паляў, якія йдуць ад востраву к берагу на працягу каля 3 вёрст, сьведчаць, як кажа народная аповесьць, аб колішнім існаваньні двух мастоў, якія злучалі ўмацаваньне з берагам. Такія-ж палі даюць падставу думаць аб тым, што быў тут яшчэ і трэці мост, каторы злучаў умацаваньне з процілежным невялікім востравам непадалёк ад замку.

Замак Азярышча быў слаўны сваімі ўмацаваньнямі. **У** XVI ст. Полацак разам з Азярышчам панавалі над усім краем [5].

У пачатку ліпня 1564 г. кн. Юры Токмаков выступіў з Невеля супраць Азярышча і аблёг яго. На помач Азярышчу пасьпяшыла літоўскае войска, якое пад Азярышчам разьбіла маскоўцаў і забрала

---

[1] Акты Западной Россіи, III, № 35.—Чтенія въ Императ. Обществѣ Исторіи Древностей Россійскихъ, Москва, 1847, III.

[2] Витебскія Губернскія Вѣдомости, 1868, № 104.— *А. Сапуновъ*, Вит. Ст., IV, 36.

[3] *R. Heidenstein*, Pamiętniki..., 50—52.

[4] *T. Narbutt*, Dzieje narodu Litewskiego, IX.

[5] *R. Heidenstein*, Pamiętniki.., 50.

ўсю амуніцыю. Сам Токмаков ледзь здолеў уцячы [1]. 6 лістапада таго-ж году к Азярышчу падступілі з войскам цар Сіміон Касаевіч Казанскі ды князі Іван Пронскі і Васіль Серебряный і здабылі горад. Дзяржаўцу азярышчанскага Марціна Астравіцкага ўзялі ў палон, а тыя, што зачыніліся ў стрэльнях, баштах ды харомах, тыя пагарэлі. Двары гасподзкія, пасадзкія і вастрожныя ўсе былі спалены, і ніводзін чалавек ня выйшаў з гораду.

Маскоўцы ўзнавілі ўмацаваньні. У 1579 г. замак Азярышча быў здабыты і спалены каралём Сьцяпанам Батурай [2].

Замак ізноў адбудавалі. Яго зьніштожыў пажар у пачатку XVII ст. Гэта бачыцца з каралеўскага ўказу, выданага ў 1616 г. Азярышчанскаму старасьце Крыштофу Сакалінскаму, якому было загадана пабудаваць новы замак і акружыць яго валам. Дзеля работы валу было загадана ўзяць людзей з вёсак, якія складалі староства, з тым, як ніхто ня важыўся ні ў якім выпадку ўхіляцца ад работы. У выпадку-ж нападу непрыяцеляў кожын дом у межах староства на ўвесь час вайны быў абавязаны прысылаць у замак чалавека з жыўнасьцю. З гэтых людзей адны абслугоўвалі гарматы, другія абаранялі замак.

3 жніўня 1654 г. к замку падступіў ваявода Сямён Стрешнев, і пасьля нядоўгае аблогі ім замку літоўскія людзі здалі горад Азярышча маскоўцам [3].

Захаваўшыяся на Азярышчанскім гарадзішчы астаткі валу, трэба думаць, паходзяць з часу гаспадараньня тут Сакалінскага [4].

## XX Замак Красны.

У Лепельскім павеце, непадалёк ад пагосту Цётча, на пярэсмыку, што аддзяляе возера Астравіта ад возера Плюсна, стаяў замак *Красны*. У дакуманьце з 1593 г. замак гэты — згодна з тагачасным правапісам—названы *Тетче* [5]. Аб мейсцы, дзе ён стаяў, ёсьць дзьве дагадкі. Адна паказвае на мейсца на паўдзённым усходзе ад пагосту Цётча, там, дзе цяпер вёска Краснае [6]. Але гэтая мяйсцовасьць зусім ня зыходзіцца з рысункам С. Пахоловіча. Паводле другое вэрсіі замак стаяў на захадзе ад пагосту Цётча, там, дзе цяпер пагост Гарадок. І гэта больш падобна да праўды [7].

Ёсьць даныя, што кароль Жыгімонт Аўгуст у 1564 г. тут, у маёнтку Рэута, загадаў пабудаваць замак з трыма баштамі, дый што ў тым жа годзе маскоўцы здабылі яго [8].

Паводле рысунку С. Пахоловіча з 1579 г. замак Красны прадстаўляў трыкутнік з чатырма баштамі. Стаяў ён на берагох двух —

---

[1]) Н. *Карамзинъ*, Исторія Гос. Рос., IX, 36-37. — *M. Stryjkowski.* Kronika Polska, II, 415.—*T. Narbutt,* Dzieje narodu L-go, IX, 393.

[2]) *А. Сементовскій,* Бѣлорусскія древности, 6-7.—Живоп. Россія, III, 242.

[3]) *А. Сапуновъ*, Витебская Старина, IV, ч. 2, 14.

[4]) Военно-статистическое обозрѣніе Россійской имп., VIII, ч. 1, 227

[5]) Историко-юридическіе матеріялы, Витебскъ, 1891, XXII, 470.

[6]) Живописная Россія, III, 388

[7]) *А. Сапуновъ*, Рисунки крѣпостей..., 8.

[8]) Военно-статистическое обозрѣніе Россійской имп., VIII, ч. 1, 219—220, — Россія, IX, 461.

называных Цётча — вазёр, злучаных пратокам і акружаўшых замак блізу з усіх бакоў.

Яшчэ да здабыцьця каралём Сьцяпанам Батурай Полацку літоўскія казакі пад камандай Францішка Жука — у канцы ліпня 1579 г. — неўспадзеўкі напалі ўначы на Красны. Прыставіўшы лесьвіцы і захапіўшы гарнізон, які ня быў зусім да гэтага прыгатаваны, казакі заў-




*Замак Красны*

(*Паводле рысунку С. Пахаловіча*) [1].

ладалі ўмацаваньнямі. Але, як хутка здабылі замак, так хутка і ўтрацілі яго. Знайшоўшы ў замку ўсяго паддастаткам, пераможцы пачалі ўпівацца ды пры гэтым братацца з маскоўцамі. Тыя-ж, выбраўшы часіну, калі казакі былі п'яныя, паслалі вестку аб гэтым у Сушу. Стуль цішком падыйшло 800 маскоўцаў, якія перарэзамі спаўшых, а замак спалілі і зраўнялі з зямлёй [2]).

[1]) Журналъ Мин. Нар. Просв. 1837, XV.
[2]) *R. Heidenstein*, Pamiętniki wojny moskiewskiej, 50-52.

## XXI. Замак Суша.

У Лепельскім павеце, на паўвостраве паміж вазёрамі Астраўкі і Чамярыца, злучанымі вузкім пратокам і складаючымі возера Сушу, ёсьць сяло Суша. Тут-жа ёсьць гарадзішча, забудаванае хатамі. У 60-ых гадох мінулага стагодзьдзя каля царквы йшчэ бачылі частку зямлянога валу ад існаваўшае тут *крэпасьці Сушы*[1]).

Крэпасьць гэная была пабудавана, як апавядае летапіс, на возеры Сушы ў жніўні 1566 году. Новая крэпасьць атрымала назоў *Копie.* Дзеля пабудовы крэпасьці цар Іван Грозны паслаў князя Юрыя Токмакова. Той, прыйшоўшы цішком з людзьмі на востраў, прыгатаваў лес і паставіў крэпасьць. Абарона крэпасьці была даручана князю




*Замак Суша*

*(Паводле рысунку С. Пахоловіча)*[2]).

---

[1]) *А. Сементовскій,* Бѣлорусскія древности, 53.—*К. Górski,* Sztuka wojenna w Polsce za Zygmuntów, Warszawa, 1891, 9.

[2]) Журналъ Мин. Нар. Просв. 1837. XV.

Пётры Серебрянаму, які атрымаў загад стаяць з войскам непадалёк ад крэпасьці [1]).

У наступным 1567 г. князь Раман Сангушка разьбіў пад Сушаю і ўзяў у палон князя Язэпа Шчербатова і Юрыя Баратынскага ды Тегут-Мурзу, які камандаваў трыма тысячамі татараў. Беспасярэдна пасьля гэтага войска Сангушкі паўторна напала на Сушу, пры чым быў забіты Васіль Палецкій, а князь Серебряный быў узяты ў палон [2]).

У 1579 г., пасьля ўтраты Полацку, цар Іван Грозны паслаў праз ганцоў граматы да свайго войска ў Сушы, якая была абложана ворагамі, з загадам: папсаваць гарматы, порах і ўсялякую зброю, якое нельга ўзяць з сабой, закапаць у зямлі абразы і сьвятарныя рэчы дый прабіцца праз аблогу. Адна з гэтых грамат папала ў рукі гэтмана Мелецкага, а другая — да полацкага ваяводы Мікалая Дарагастайскага. Апошні пасьпяшыў пад Сушу, і замак, пасьля перагавораў, быў яму здадзены бяз бою ваяводаю Туреніным. Гарнізону—лікам 6.000 душ—было дазволена свабодна адыйсьці ў Маскву, забраўшы з сабой маемасьць. Дарагастайскі заняў замак 6 кастрычніка. Тамака было ўзята: вялікіх гармат 21, гакаўніц 136, ручніц даўгіх 123, пораху 100 бочак, вагой 400 цэнтнараў. Тады-ж замак Суша быў зусім разбураны [3]).

## XXII. Замак Сакол.

У Полацкім павеце, у куце паміж ракой Дрыссай ды ўпадаючай у яе рэчкай Нішчай, каля пасёлку Сакалішча, захаваліся на ўзвышшы астаткі валу й рову ад былае *крэпасьці Сакалá.*

Крэпасьць Сакóл была збудавана па загаду цара Івана Грознага ў сьнежні 1566 г. [4]). Крэпасьць гэтая лічылася аднэй з наймацнейшых на маскоўскай граніцы. Паводле рысунку С. Пахоловіча 1579 г., Сакóл стаяў пры ўтоку рэчкі Нішчы ў раку Дрыссу. Крэпасьць мела 11 башт, была акружана валам і драўлянымі сьценамі. Глыбокі роў ішоў ад аднае ракі да другое [5]).

Крэпасьць Сакол праіснавала ўсяго толькі 13 гадоў. 11 верасьня 1579 г. яна была здабыта палякамі і спалена.

Іван Грозны, прыйшоўшы з войскам у Пскоў, даведаўся аб аблозе каралём Сьцяпанам Батурай Полацку. Маскоўскі цар ураз-жа паслаў на ўспамогу абляганым адборную частку свайго войска пад камандай Барыса Шеіна і Хведара Шереметева. Апошнія, пераканаўшыся, што нельга бясьпечна прайсьці ў Полацак, бо ўсе дарогі былі абстаўлены палякамі, прыпыніліся ў Сакалé. Стуль маскоўцы пачалі рабіць напады на польскіх людзей, пасыланых за емінай. Кароль паслаў проці Сакалá Крыштофа Радзівілла з некалькімі адборнымі атрадамі коньнікаў. Маскоўцы ўкрываліся ці то ў акопах, ці на

---

[1]) Н. *Карамзинъ,* Исторія Госуд. Росс., IX, примѣчанія 222-223. — *А. Сапуновъ,* Витебская Старина, IV, ч. 1, 22.

[2]) *Н. Карамзинъ,* Исторія Гос. Росс., IX, примѣч. 229.

[3]) *R. Heidenstein,* Pamiętniki..., 50-52, 80-81.

[4]) Н. *Карамзинъ,* Исторія..., IX, примѣч. 223.

[5]) *А. Сапуновъ,* Рисунки крѣпсстей.., 11-15.

сваей пазіцыі і ня выходзілі на бітву. Тады польская коньніца, прыскочыўшы да іх пад самымі сьценамі, распачала бой з коньнікамі. Пасьля невялікіх страт забітымі з абодвух бакоў палякі, захапіўшы некалькі маскоўцаў у палон, вярнуліся к каралю. Бачучы, што проці Сакала́ трэба пусьціць у ход вялікую армію, кароль адлажыў гэту справу да здабыцьця Полацку.

*Замак Сако́л*

(*Паводле рысунку С. Пахоловіча*) [1].

Заняўшы Полацак, кароль паслаў пад Сакол гэтмана Мелецкага з палякамі й немцамі. Непадалёк ад Сакала войска перайшло праз р. Дрыссу і затрымалася тут у палатках. Нямецкая пяхота пачала капаць равы й шанцы на ўзьбярэжжы Дрыссы, а польская — у кірунку к р. Нішчы. Пачаўшы работу сваю ў розных мейсцах, яны

---

[1]) Журналъ Мин. Нар. Просв. 1837, XV.

пасьля зыйшліся і разам пакіраваліся проці *ўмацаванага табору* маскоўцаў. Тыя-ж, бачучы, што польскія сілы невялікія, а да таго-ж зmораныя цяжкай аблогай і труднасьцямі паходу, паказалі, быццам вельмі спалохаліся, і зачыніліся ў сваім умацаваньні. Там, падмацаваўшы свае сілы і прыгатаваўшы ўсё патрэбнае дзеля выпаду, маскоўцы маніліся назаўтрае раніцай напасьці на палякоў. Але здарылася так, што Дабраслаўскі, якога Мелецкі назначыў за начальніка над артылерыяй, якраз пад той час пусьціў, дзеля спробы, у ўмацаваньні тры калёныя ядры. Два з іх, хоць і выклікалі пажар, хутка былі заўважаны маскоўцамі, якія й затушылі пажар. Але трэцяе ядро засела ў падставе сьцяны і, нікім не заўважанае, запаліла сьцяну, якая шыбка пайшла гарэць, бо была зроблена з сухога яловага дрэва. Мелецкі, бачучы гэта, загадаў даць сыгнал свайму войску брацца за аружжа. Маскоўцы, ня маючы магчымасьці затушыць пажар і зьбянтэжаныя гэткай неспадзяванкай, думалі, што палякі пачалі штурм, і перад небясьпекай кінуліся ўцякаць праз усе вароты. Шереметев, які адыходзіў з часткай коньніцы па дарозе на Пскоў, папаў у рукі браслаўскага ваяводы Яна Збараскага, каторы тут пільнаваў ворагаў. Тыя-ж, што з Шеіным кінуліся ў другі бок, наткнуліся на немцаў. Апошнія, жадаючы памсьціцца за робленыя над імі маскоўцамі жорсткасьці, вырубілі ўсіх пагалоўна разам з Шеіным. Астаўшыяся ў замку малілі аб ласку, але немцы стараліся забіваць усіх. Тады маскоўцы, спусьціўшы браму, зачынілі гэтак каля 500 немцаў і ўсіх іх выразалі. Брама была разьбіта. Частка астаўшыхся ў замку маскоўцаў пагібла ад мяча, а рэшта, ня бачучы перад сабой ніякага ратунку, кінулася ў вагонь і там пагібла. Усюды йшла страшэнная разьня, і шмат хто казаў, што ніколі ня бачылі на полі бітвы гэткае колькасьці наваленых трупаў. Многа забітых выглядалі як быццам абгрызенымі: гэта нямецкія маркетанткі рэзалі трупы (у тым ліку і труп Шеіна) і зьдзіралі ў іх здор дзеля лячэньня ран [1]).

Крыху інакш апавядае аб здабыцьці Сакала другі гісторык. Ён піша, што Мелецкі, здабыўшы замак, Шереметева, ваявод і важнейшых асоб узяў у палон, людзей памілаваў дый усё аддаў каралю. Назаўтрае ён угасьціў выдатнейшых палонных, абдарыў пяхоту і задзівіў усіх сваей вялікадушнасьцяй [2]).

## XXIII. Гарадоцкі замак.

У горадзе *Гарадку*, які стаіць паабапал рэчкі Гаражанкі, захаваліся сьляды двух умацаваньняў. На правым узьбярэжжы гэтае рэчкі, сярод балоцістага лугу, стаіць чатырохкутнае зямлянoе ўмацаваньне —астача ад *гарадка*. Ад яго, трэба думаць, атрымаў свой назоў і горад [3]). На процілежным узьбярэжжы Гаражанкі, на ўзвышаным

---

[1]) *R Heidenstein,* Pamiętniki..., 62-65, 74-78. -- *О. Перлингъ,* Россія и папскій престолъ, Москва 1912, I, 439.

[2]) Jana Dymitra Solikowskiego, arcybiskupa Lwowskiego, Krótki Pamiętnik Rzeczy Polskich od zgonu Zygmunta Augusta, zmarłego w Knyszynie 1572 r., do r. 1590.—*А. Сапуновъ,* Витебская Старина, IV, ч. 1, № 245.

[3]) Историко-юридическіе матеріялы, 1893, XXIV, 507.

абрыве, відаць каменны фундамант, які сьведчыць аб існаваўшы тут мураваным *замку* [1]).

Калі быў пабудаваны гэны замак, няма ведама. Горад Гарадо першы раз успамінаецца ў дакумантах 1650 году [2]).

## XXIV. Касаржэўскі замак.

У Дрысьсенскім павеце, на старым паштовым шляху з Полацк ў Рыгу, за ракой Дрыссай, на землях вёскі Валь, стаіць гэтак-звана Замковая гара. У шасьцідзясятых гадох мінулага стагодзьдзя на ё былі відочныя сьляды даволі прасторнага зямлянога акопу ды круш ад стаяўшага тут *замку Касаржэва.*

З граматы караля Яна Казіміра, дадзенае ў 1652 г. Касаржэ скаму, відаць, што замак Касаржэў у канцы першае паловы XVII с быў узяты й спалены расейцамі. У 1652 г. кароль Ян Казімір, вя нуўшы частку сваіх валаданьняў, даў Касаржэўскаму права адбуд ваць горад Касаржэў [3]).

## XXV. Умацаваны табор Кушлікі.

У Полацкім павеце, на зямлі вёскі *Кушлікі,* вёрст на 10 выш Дзісны, на правым беразе Дзьвіны, на рэчцы, якая тут у яе ўліва ца, захаваліся дагэтуль ясныя сьляды акопаў. Тут 3 лістапада 1661 былі разьбіты на галаву Жэромскім расейскія сілы пад каманд князя Хованскага і Ордын-Нашчокіна. *Умацаваны табор* быў разгр блены. У рукі палякоў дасталася вельмі багатая дабыча. Было ў та 130 сьцягаў і 5 бунчукоў, 5 невялікіх мядзяных гармат і 1 вялік гармата, 2 мортыры, 10 скураных арудзьдзяў, акаваных жалез У палон папалі: 8 палкоўнікаў, больш за 10 ротмістраў і больш 200 розных старшын і афіцэраў [4]).



---

[1]) Россія, IX, 452. — *П. Семеновъ,* Историко-статистическій словарь Россійс имперіи, 1863, I, 674,

[2]) Спнсокъ населенныхъ мѣстъ Витебской губ., Витебск, 1906, XXIV.

[3]) Wiadomość o mieście Kosarżewie, Miesięcznik Połocki, Połock, 1818, III.—Оста Косаржевскаго замка въ Дриссенскимъ уѣздѣ, Витебскія Губернскія Вѣдомости, 1867,

[4]) *С. Соловьевъ,* Исторія Россіи съ древнѣйшихъ временъ, СПБ, III, 115-116 *А. Сапуновъ.* Витебская Старина, IV, ч. 2, № 94. — Витебскія Губернскія Вѣдомос 1886, №№ 89-92.